ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

# Каталіцкі ВЕСНІК

№4 (145) красавік 2023 год

CATHOLICNEWS.BY




**Вялікдзень 2023**

“Не бойцеся! Ведаю, што вы шукаеце Езуса ўкрыжаванага. Яго тут няма, Ён уваскрос, як сказаў” (Мц 28, 5-6).

*Паважаныя браты і сёстры ў Хрысце, шаноўныя суайчыннікі!*

Напружанасць у міжлюдскіх адносінах нярэдка абуджае пытанне светапогляду чалавека. Хто я, навошта жыву, які сэнс у тым, што адбываецца са мной і навокал, што мяне чакае ў будучым? Сярод гэтых пытанняў важнае месца займае пытанне існавання Найвышэйшай Сілы, Бога, у Якім чалавек нават інстынктыўна шукае ратунку і дапамогі ў вырашэнні тых ці іншых праблемаў. Як сцвердзіў у свой час Кардынал Юзаф Ратцынгер – Папа Бэнэдыкт XVI, “у свеце без Бога мы застаёмся пазбаўленымі ісціны, а гэта значыць – рабамі” (Кард. Ю. Ратцынгер. “Новы спеў Пану” 1,4; 1990 г.).

Хрысціянства не проста дае адказы на пытанні, звязаныя з існаваннем чалавека, яно мае ў сабе моц учыніць гэтае існаванне “Паўнатою жыцця” (пар. Ян 10, 10). І гэтая “поўня”, гэты Божы “дастатак” крыецца менавіта ў Крыжовай Ахвяры і Уваскрасенні нашага Збаўцы Езуса Хрыста.

Таму мы зноў з вялікай павагай, радасцю і надзеяй услухоўваемся ў словы Велікоднай Літургіі, якая абвяшчае перамогу Хрыста над грахом і смерцю. Разважаючы над падзеямі Вялікай Ночы і Раніцы, што надышла пасля яе, мы заўсёды можам знайсці ў іх сваё месца: ці ў шэрагу абыякавых мінакоў, ці ў кагорце перапалоханых жаўнераў, праплачаных, каб хлусіць пра нібыта выкрадзенае цела ўкрыжаванага за два дні раней Настаўніка з Назарэту, ці сярод жанчын і апосталаў, якія з захапленнем распавядаюць пра сваю сустрэчу з Уваскрослым Хрыстом.

“Спакой вам!” (Лк 24,36). Гэтыя словы, якімі Уваскрослы Збаўца прывітаў у Велікодную Раніцу сваіх вучняў, Ён скіроўвае сёння таксама да нас! Да тых, хто яшчэ, магчыма, блукае ў цемры, але мае вялікае прагненне жыць у Божым святле, жыць у праўдзе, у свабодзе Божых дзяцей. Да тых, каго напаткалі хвароба, выгнанне, разлад у адносінах з бліжнімі, жыццёвая параза. Спакой вам!” Так напісана, што Месія павінен цярпець і ўваскрэснуць на трэці дзень з мёртвых, і ў Ягонае Імя павінна абвяшчацца пакаянне дзеля адпушчэння грахоў усім народам, пачынаючы ад Ерузалема. А вы – сведкі гэтага” (Лк 24,46-48).

Так, мы сведкі гэтага, калі моцна трымаемся Хрыстовага Крыжа, калі не дазваляем нянавісці завалодаць нашым сэрцам, але прабачаем, як і Бог прабачае нам правіны нашыя. Калі шукаем праўду і паводле праўды імкнёмся жыць. Калі з вуснаў нашых не выходзіць ніякая нядобрая мова, а ў намерах і ўчынках нашых няма падману. Тады разам з Хрыстом мы становімся пераможцамі смерці і ўжо цяпер уваскрасаем з граху.

Няхай Той, Хто вытрываў у выпрабаваннях і, прабачаючы людскі грэх, уваскрос з памерлых, прынясе кожнай вашай сям'і, усёй нашай Краіне і сучаснаму свету ласку прымірэння, згоды, спынення войнаў і супакою!

Хрыстос Уваскрос!

Сапраўды Уваскрос!

*+Алег Буткевіч*
*Біскуп Віцебскі*

## “Няма сэнсу рэзаць”. Сацыёлаг пра лёс польскай мовы ў Касцёле ў Беларусі


Стар. 6

## Беларускія грэка-католікі займелі сваю Апостальскую Адміністратуру. Што гэта значыць?


Стар. 3

## “Бацькоўская акадэмія”: курс для татаў і мамаў ад хрысціянскіх псіхолагаў у Мінску


Стар. 7


Стар. 8

## “Дзе б мы ні былі, на якой бы мове ні размаўлялі, нас яднае Езус”. Душпастырствы беларусаў-католікаў у замежжы

## У Ізраілі адрадзілі пальмы, якія раслі ў часы Езуса

Стар. 10



# Пра першую параду пасля канклава, “пах авечак” і святога “рэвалюцыянера” ў інтэрв’ю Папы Францішка

**Місія Папы і біскупаў, адносіны да святарскага цэлібату і святога Францішка Асізскага сталі тэмамі інтэрв’ю, якое Папа Францішак даў аргенцінскаму штотыднёвіку “Perfil”, з нагоды дзясятай гадавіны яго пантыфікату.**

“Заданне Папы Рымскага ў адносінах да Касцёла і біскупа ў адносінах да дыяцэзіі – несці гармонію. Гэта слова з’яўляецца фундаментальным, і мы павінны прыйсці да яго, калі кажам пра Святога Духа”, – сказаў Пантыфік, дадаючы, што менавіта Святы Дух стварае адметнасці ў Касцёле, а таксама прыводзіць іх да гарманічнага суіснавання паміж сабой.

Адно з пытанняў падчас размовы з журналістам датычылася адносін да святарскага цэлібату. Святы Айцец нагадаў, што цэлібат – гэта не догма: ён належыць да дысцыпліны Касцёла, “якая сёння ёсць, а заўтра яе можа не быць”. У той жа час Папа прызнаўся, што “не гатовы перагледзець яе”.

Пантыфік падзяліўся думкамі пра апекуна свайго пантыфікату – святога Францішка Асізскага. Ён нагадаў, што гэта быў малады чалавек з добрай сям’і, які ў 20-гадовым узросце пакінуў усё і пачаў жыццё, пазначанае “крэатыўнасцю, каторая выклікае захапленне”.

“Жыццё святога Францішка – гэта жыццё рэвалюцыянера”, – сказаў Папа, заўважаючы, што любоў да Хрыста была для яго крыніцай мужнасці, якая межавала з вар’яцтвам. Святы прадэманстраваў гэта, калі адправіўся прапаведаваць Евангелле мусульманскаму султану, нягледзячы на рызыку для ўласнага жыцця. Святы Францішак выклікае захапленне, але яго не ва ўсім можна наследаваць, – лічыць Пантыфік. “Гэта тыя святыя, якія, каб указаць правільны шлях, ідуць далей, але яны павінны быць крыху больш набліжаныя да звычайнага жыцця”, – дадаў ён.

Пантыфік падзяліўся таксама некаторымі ўспамінамі пра 13 сакавіка 2013 года – дзень, калі быў абраны наступнікам Святога Пятра. Ён заўважыў, што, калі вынікі галасавання на канклаве сталі зразумелыя, да яго падышоў бразільскі кардынал Клаўдзіу Хумэс і сказаў: “Не бойся, гэта справа Святога Духа”, а потым іерарх даў яму першую параду: “Не забывайце пра бедных”. “Тады і з’явілася імя Францішак”, – расказаў Папа.

Журналіст спаслаўся на словы Святога Айца, які часта кажа, што святары павінны мець “пах авечак” – гэта значыць, быць блізкімі да свайго статку, блізкімі да людзей. Ён спытаўся, ці магчыма гэта таксама для тых, хто служыць у Ватыкане. Пантыфік адказаў станоўча, прывёўшы ў прыклад кардынала Агасціна Казаролі, які, будучы Дзяржаўным сакратаром, чалавекам адказным за дыпламатыю Апостальскай Сталіцы, стараўся кожную нядзелю наведваць з пастырскім візітам турмы для непаўналетніх.

На завяршэнне інтэрв’ю Папа Францішак скіраваў зварот да сваіх суайчыннікаў, выказваючы падзяку за выхаванне, якое атрымаў ад аргенцінскага народа. “Я – аргенцінец, я быў выхаваны аргенцінскім народам, яго багаццем і супярэчнасцямі. Я ўнаследаваў усё, з’яўляюся сынам эмігрантаў, але аргенцінцам у душы”, – сказаў Святы Айцец.

*Аляксандр Панчанка,*
*беларуская рэдакцыя*
*Vatican News*

# Папа Францішак збіраецца ў Венгрыю. З кім сустрэнецца і пра што будзе казаць

**28-30 красавіка адбудзецца Апостальскае падарожжа Святога Айца Францішка ў Венгрыю. Папа наведае Будапешт па запрашэнні дзяржаўных і касцельных уладаў гэтай краіны. Расказваем, чаго чакаць ад візіту.**

### Рэлігія і Касцёл у Венгрыі

Паводле перапісу 2011 года, з амаль 10 млн жыхароў Венгрыі каталікаў было 38,9% (пераважна заходняга, але таксама і ўсходняга абрадаў). Яшчэ 13,8% жыхароў краіны заявілі, што з’яўляюцца пратэстантамі (пераважна кальвіністамі). Да Кальвініcцкай царквы, дарэчы, належаць Прэзідэнт краіны Каталін Новак і Прэм’ер-міністр Віктар Орбан, якія прадстаўляюць кансерватыўную і, як лічыцца, прарасейскую партыю “Фідэс”.

18,2% жыхароў Венгрыі ў 2011 годзе назвалі сябе нявернікамі, або атэістамі, а 27,2% – больш як чвэрць – агулам не акрэслілі сваёй рэлігійнай прыналежнасці.

Розныя сацыялагічныя апытанні між тым паказваюць, што сярод жыхароў Венгрыі каталікамі могуць быць каля 62% насельніцтва, а пратэстантамі – амаль 20%.

**Рыма-каталіцкі касцёл у Венгрыі падзелены на 12 дыяцэзіяў і 4 архідыяцэзіі.**

Апроч таго, у краіне існуе Венгерская грэка-каталіцкая царква, большасць вернікаў якой пражывае ва ўсходніх рэгіёнах. Яна складаецца з адной архіепархіі і дзвюх епархій.

Касцёл Беларусі з Венгрыяй звязвае сярод іншага тое, што папярэднім Апостальскім нунцыем у нашай краіне быў венгр Габар Пінтар, якога ў 2019 годзе прызначылі прадстаўніком Ватыкана ў лацінаамерыканскім Гандурасе.

### Як пройдзе візіт

Прэм’ер-міністр Венгрыі Віктар Орбан запрасіў Папу Францішка наведаць Венгрыю падчас асабістай сустрэчы ў красавіку 2022 года. У жніўні 2022 года гэтую ж прапанову паўтарыла Прэзідэнт краіны Каталін Новак.

“Я была радая даведацца, што Яго Святасць Папа Францішак афіцыйна прыняў маю прапанову наведаць сёлета Венгрыю. Не можам дачакацца, каб прывітаць Святога Айца”, – напісала яна ў Twitter, калі 27 лютага 2023 візіт у Будапешт быў афіцыйна абвешчаны.

Святы Айцец прыбудзе ў сталіцу Венгрыі раніцай 28 красавіка самалётам з Рыма. Гэта будзе ўжо другі візіт Папы Францішка ў гэтую краіну. Мінулы раз ён наведваў Венгрыю ў 2021 годзе з нагоды Міжнароднага эўхарыстычнага кангрэсу. Праўда, тады візіт не насіў афіцыйнага характару. Таксама двойчы Венгрыю наведваў Ян Павел ІІ – у 1991 і 1996 гадах.

Дэвізам пілігрымкі стане “Хрыстус – наша будучыня”. Таксама ўжо вядомы і лагатып апостальскага падарожжа. Галоўнай яго часткай стане Ланцуговы мост у Будапешце, што злучае падзеленыя Дунаем дзве часткі венгерскай сталіцы. Мост нагадвае пра важнасць будавання мастоў паміж людзьмі, пра што часта кажа Святы Айцец.

У першы дзень візіту запланаваныя сустрэчы Папы з Прэзідэнтам і Прэм’ер-міністрам Венгрыі. Як піша французскае выданне AFP, “назіральнікі з Ватыкана кажуць, што Францішак, магчыма, спадзяецца, што Орбан, які падтрымлівае цесныя сувязі з Прэзідэнтам Расіі Уладзімірам Пуціным да вайны ва Украіне, зможа дапамагчы Папу ў яго імкненні адыграць ролю міратворца ў канфлікце, што працягваецца ўжо год”. Дарэчы, у лютым 2023 года кіраўнік МЗС Венгрыі наведваў таксама Беларусь, каб, паводле яго словаў, “прадстаўляць мірную пазіцыю”.

**Праўда, летась венгерскі прэм’ер абяцаў пантыфіку, што вайна скончыцца яшчэ да 9 траўня 2022 года. Але гэтага так і не адбылося.**

Пасля сустрэчы з кіраўніцтвам краіны Францішак накіруецца ў былы кармелітанскі кляштар у Будапешце, дзе звернецца з прамовай да прадстаўнікоў уладаў, грамадзянскай супольнасці і дыпламатычнага корпусу. Завяршыцца першы дзень папскай пілігрымкі сустрэчай у катэдры святога Стэфана з венгерскімі біскупамі, святарамі, дыяканамі, кансэкраванымі асобамі, семінарыстамі і душпастырскімі работнікамі.

У плане на 29 красавіка – наведванне дзяцей, што атрымліваюць дапамогу ў Цэнтры імя бласлаўлёнага Ласла Бацьяні-Штратмана, з беднымі і бежанцамі, у тым ліку з Украіны, у касцёле святой Альжбеты Венгерскай, а таксама сустрэчы з венгерскай моладдзю і мясцовымі езуітамі.

30 красавіка Папа Францішак узначаліць святую Імшу на плошчы Лаяша Кошута і правядзе малітву “Уладарка Неба”. Затым ён наведае факультэт інфарматыкі і біёнікі Каталіцкага ўніверсітэта, а пасля цырымоніі развітання вылеціць у Рым.

Старшыня біскупскай канферэнцыі Венгрыі біскуп Андраш Верэш растлумачыў, што з прычыны ўзросту Францішка, якому сёлета споўніцца 87 гадоў, паездка абмяжуецца толькі Будапештам.

Застаецца невядомым, ці сустрэнецца Папа з мітрапалітам Іларыёнам (Алфеевым) – былым “міністрам замежных спраў” Рускай праваслаўнай царквы, які ў 2016 годзе арганізоўваў сустрэчу Францішка з патрыярхам Кірылам на Кубе. З чэрвеня 2022 года іерарх быў пераведзены на пасаду мітрапаліта Будапешцкага і Венгерскага РПЦ.

### Што кажуць у Венгрыі?

Агулам біскуп Андраш Верэш адзначыў, што візіт Пантыфіка стане “вельмі важнай падзеяй не толькі для каталікаў”, але “для ўсіх венграў” у краіне і за мяжой.

“Гэта вялікая радасць для нашага народа”, – заявіў кардынал Пэтэр Эрдо, мітрапаліт Эстэргомска-Будапешцкі і Прымас Венгрыі.

У сваю чаргу, Генеральны сакратар мясцовага епіскапату ксёндз Томаш Тот адзначыў, што толькі нешматлікія краіны Папа наведвае двойчы. Ён усклаў вялікія надзеі на сустрэчу Пантыфіка з маладымі венграмі, якія змогуць, з аднаго боку, убачыць “сусветнае вымярэнне Касцёла”, а з іншага – адчуць тое, што яны з’яўляюцца “часткай Паўсюднага Касцёла”.

Як заявіў Іштван Сімічка з Хрысціянска-дэмакратычнай народнай партыі, што разам з “Фідэс” уваходзіць у кіроўную кааліцыю, Папа едзе ў Венгрыю, каб абвяшчаць мір.

*Мечыслаў Гапановіч*



# Беларускія грэка-католікі займелі сваю Апостальскую Адміністратуру. Што гэта значыць?

**Беларуская Грэка-Каталіцкая Царква цяпер афіцыйна з’яўляецца Апостальскай Адміністратурай. Яе статус быў павышаны напрыканцы сакавіка 2023 года. Разбіраемся, што гэта значыць для беларускіх грэка-католікаў і агулам для Каталіцкага Касцёла.**

30 сакавіка Папа Францішак стварыў Апостальскую Адміністратуру для католікаў візантыйскага абраду ў Беларусі і прызначыў Апостальскім Адміністратарам структуры архімандрыта Яна Сяргея Гаека MIC, які з 1993 года быў Апостальскім візітатарам для гэтых вернікаў.

Беларускіх грэка-каталіцкіх вернікаў ужо павіншаваў біскуп Віцебскі Алег Буткевіч, старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі. Ён падкрэсліў, што пасля 80-гадовага перапынку католікі ўсходняга абраду ў Беларусі маюць сваю структуру і свайго ўласнага пастыра.

“Ад імя беларускага каталіцкага епіскапату, а таксама ад імя ўсіх вернікаў лацінскага абраду дазвольце павіншаваць Вас і ўсіх вернікаў візантыйскага абраду з гэтай гістарычнай падзеяй”, – заявіў ён.

### Епархія без біскупа

У афіцыйным паведамленні Святога Пасаду адзначаецца, што ў новай апостальскай адміністратуры для вернікаў візантыйскага абраду ў Беларусі на сёння налічваецца каля 5 000 вернікаў, дзейнічае 16 парафій, маюцца 16 святароў, 3 дыяканы і 4 семінарысты.

Пры гэтым падкрэсліваецца, што грэка-каталіцкая супольнасць у Беларусі з'яўляецца спадчынніцай Брэсцкай уніі 1596 года. Таксама адзначаецца, што ў 1798 годзе была створана Мінская (русінская) епархія, “дзейнасць якой у 1839 годзе была паралізавана, але структура ніколі не ліквідавалася”. Annuario pontificio згадвае яе да 1924 года.

У лісце нагадваецца, што ў 1939 годзе Мітрапаліт Львоўскі, архіепіскап Андрэй Шаптыцкі заснаваў Беларускі экзархат, а ў 1941 годзе Пій XII зацвердзіў іерарха ў якасці яго апостальскага адміністратара. З 1943 года пасада заставалася вакантнай.

У 1988 годзе грэка-каталіцкія вернікі ў Беларусі пачалі грамадзянскую рэгістрацыю сваіх парафій. З 1993 года яны былі даручаны пастырскай апецы архімандрыта Сяргея Гаека ў якасці апостальскага візітатара ad nutum Sanctae Sedis (“на загад Святога Пасаду”). Цяпер статус і айца Сяргея, і самой БГКЦ павышаны.

### Чым ёсць Апостальская Адміністратура

Кодэкс Кананічнага права Каталіцкага Касцёла абвяшчае, што апостальская адміністратура – “пэўная частка Народу Божага, якая з асаблівых і вельмі важкіх прычын не засноўваецца Вярхоўным Пантыфікам у якасці дыяцэзіі; пастырская апека даручаецца апостальскаму адміністратару, які кіруе ёю ад імя Вярхоўнага Пантыфіка”.

Разам з Апостальскай адміністратурай для вернікаў візантыйскага абраду ў Беларусі ў Касцёле існуюць дзевяць апостальскіх адміністратураў, з іх шэсць – лацінскага абраду і тры – візантыйскага (апроч Беларусі, гэта таксама Албанія ды Казахстан і Цэнтральная Азія).



Пры гэтым частку гэтых апостальскіх адміністратур узначальваюць біскупы. Напрыклад, у Албаніі, Кітаі, Эстоніі, Узбекістане і на Каўказе. Апошні беларускі грэка-каталіцкі біскуп Уладзімір Тарасевіч, які займаў тытулярную пасаду біскупа Марыямскага, памёр у 1986 годзе. І з таго часу беларускія грэка-католікі ані ў Беларусі, ані за мяжой свайго біскупа не мелі.

Ці атрымаюць беларускія грэка-католікі таксама і біскупа, пакуль не паведамляецца. Агулам жа сярод 23 усходніх каталіцкіх цэркваў, уласнага біскупа не маюць дзве – Беларуская і Расійская грэка-каталіцкія цэрквы. Але, як адзначылі ў афіцыйным паведамленні Святога Пасаду, Мінская епархія візантыйскага абраду дагэтуль існуе і ніхто не яе не ліквідаваў. А значыць, і магчымасць прызначэння на яе ўласнага іерарха таксама не выключаецца.

Адзначым, што ўтварэнне Апостальскай Адміністратуры для католікаў візантыйскага абраду ў Беларусі адбылося неўзабаве пасля таго, як у лістападзе 2022 года прэфектам Дыкастэры па справах Усходніх Цэркваў быў прызначаны арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроцці, які ў 2011 – 2015 гадах выконваў абавязкі Апостальскага нунцыя ў Беларусі.

Сама ж дыкастэрыя ж, як заяўляецца ў правілах, можа прызначаць для вернікаў Усходніх каталіцкіх цэркваў “візітатараў і нават сваіх уласных іерархаў, наколькі гэта магчыма і дзе таго патрабуюць колькасць і абставіны”. А значыць, пытанне ўласнага біскупа для БГКЦ не закрытае.

*Мечыслаў Гапановіч*

# Касцёл у ЗША пра новыя метады ў дачыненні да целаў памерлых

**Касцёл лічыць пахаванне “найбольш адпаведным спосабам праявы павагі да цела памерлага”, паколькі яно “ясна выказвае нашу веру і надзею на ўваскрасенне цела”, – нагадаў Камітэт веравучэння епіскапату ЗША (USCCB).**

Аўтары спецыяльнай заявы адзначылі непрымальнасць выкарыстання ў дачыненні да цела памерлага такіх тэхналогій, як шчолачны гідроліз і кампаставанне.

Кожны чалавек створаны на вобраз і падабенства Божае і валодае неад’емнымі годнасцю і каштоўнасцю. Больш за тое, “паколькі кожны мужчына і кожная жанчына ўяўляюць сабой адзінства душы і цела, павага да асобы павінна ўключаць павагу да цела”. Менавіта таму Касцёл лічыць пахаванне “найбольш прыдатным спосабам праявы павагі да цела памерлага”.

Было адзначана, што хоць Касцёл дапускае крэмацыю, калі толькі яна не абранан па прычынах, якія супярэчаць каталіцкай веры, пераважным метадам з’яўляецца пахаванне.

Ужываючы асноўныя прынцыпы, выкладзеныя ў Інструкцыі аб пахаванні памерлых і захаванні праху ў выпадку крэмацыі (Ad resurgendum cum Christo), выдадзенай тагачаснай Кангрэгацыяй Веравучэння ў 2016 годзе, Камітэт даў ацэнку двум найбольш вядомым новым метадам, якія пачалі прымяняць у дачыненні да чалавечых парэштказў у якасці альтэрнатывы пахаванню і крэмацыі – шчолачнаму гідролізу і кампаставанню. Ён прыйшоў да высновы, што такія падыходы не адпавядаюць патрабаванням Касцёла адносна належнай павагі да целаў памерлых.

Пасля працэсу шчолачнага гідролізу застаецца амаль чатырыста літраў вадкасці, у якой раствараылі большую частку цела. Да яе затым падыходзяць як да сцёкавай вады. Пасля завяршэння працэсу кампаставання цела чалавека цалкам раскладаецца разам са спадарожнымі раслiннымі рэчывамі, утвараючы адзіную масу кампосту, у якой нішто не адрозніваецца ад самога цела. Гэта не дазваляе пакінуць яго ў святым месцы, – гаворыцца ў аналізе.



Дактрынальны камітэт епіскапату ЗША завяршыў сваю заяву напамінам: каталіцкая вера вучыць, што наша канчатковае прызначэнне як чалавечых істот уключае ў сябе цэласнасць, “таму мы абавязаны паважаць нашу цэласнасць на працягу ўсяго нашага жыцця і паважаць целы памерлых, калі іх зямное жыццё падышло да канца”.

*Кс. Аляксандр Амяльчэня,*
*беларуская рэдакцыя*
*Vatican News*



# Рэгент Апостальскай пенітэнцыярыі: споведзь – не месца катавання

**Рэгент Апостальскай пенітэнцыярыі, які прысутнічаў на сустрэчы цяперашніх і будучых спаведнікоў з Папам, адзначыў, што святар павінен глядзець на таго, хто каецца, вачыма самога Езуса.**

“Святар не нараджаецца добрым спаведнікам. Ён ім становіцца. Для гэтага патрэбна сур’ёзная праца, сур’ёзная падрыхтоўка, перш за ўсё глыбокая малітва і духоўнае жыццё, падрыхтоўка не толькі ў галіне тэалогіі, але і ў галіне юрыдычных навук, маральнай тэалогіі, псіхалогіі. Перш за ўсё спаведнік павінен мець запал і бязмерна верыць у сэнс гэтага служэння”, – звярнуў увагу кс. Кшыштаф Никель.

Ён нагадаў, што спаведнік сам з’яўляецца чалавекам, які мае патрэбу ў міласэрнасці, і калі ён адчуў гэту міласэрнасць на сабе, то пасля становіцца сапраўдным распарадчыкам, сведкам і інструментам міласэрнай любові Божай.

“Споведзь павінна быць месцам не катавання, а сустрэчы. Яна існуе не для таго, каб выклікаць празмернае пачуццё віны, а для таго, каб у сэрцы чалавека, які каецца, нарадзіўся новы давер да Божай міласэрнасці, перакананне ў тым, што Бог клапоціцца пра яго. Ён ніколі не стамляецца ад нашых грахоў, нашых слабасцей, нават калі яны самыя вялікія”, – заўважыў кс. Никель, каментуючы сустрэчу Папы з удзельнікамі курсаў для спаведнікоў, якія штогадова праводзяцца ў Ватыкане па ініцыятыве Апостальскай пенітэнцыярыі.

*Кс. Аляксандр Амяльчэня,*
*беларуская рэдакцыя*
*Vatican News*

# Страчаная капліца ў цэнтры Глыбокага

**Дзеля хвалы Божай нашыя продкі будавалі не толькі вялікія касцёлы, але і капліцы ў далёкіх вёсках і на могілках, ставілі прыдарожныя крыжы і фігуры святых. Многія з іх не дайшлі да нашага часу, але пра некаторыя можна даведацца са старонак архіўных дакументаў, а часам і знайсці іх фотаздымкі.**

У Глыбокім з 1642 да 1862 года існаваў кляштар кармелітаў босых, які заснаваў колішні ўладальнік мястэчка і навакольных маёнткаў дзісненскі староста і мсціслаўскі ваявода Іосіф Корсак. Багаты і вялікі кляштар, у якім адначасова жылі, маліліся і спасцігалі навукі дзясяткі манахаў, быў своеасаблівым "горадам у горадзе", аточаным трохметровым цагляным мурам, часткі якога захаваліся і цяпер каля сабора Нараджэння Маці Божай і каля могілак на Копцеўцы.

У куце гэтага муру, справа ад захаванай да сённяшняга дня кляштарнай брамы, была капліца. Яе апісанне можна знайсці ў дакументах візітацыі кляштара кармелітаў босых 10 студзеня 1830 года.

"Капліца, мураваная ў квадрат, мае ў сабе наўкола 23 ½ аршына [16,7 метра], вышыня пад шчыт 6 аршынаў [4,3 метра], унутры – старасвецкія роспісы розных святых – як на скляпеннай столі, так і па сценах, а таксама вялікая фігура Збаўцы на Крыжы, змешчаная пры сцяне. Па баках – два вялікія акны з дробнага шкла, а каля фігуры ўверсе – два круглыя малыя акны. Алтар драўляны з карнізамі і агароджай такарскай работы. Гэтая капліца нядаўнім часам звонку ўпарадкаваная. Накрытая дахоўкай, а на ёй – невялікі жалезны крыж". На жаль, мы не ўбачым роспісы з выявамі святых, пра якія кажа аўтар візітацыйнага дакумента. Капліца была разабраная пасля Другой сусветнай вайны камуністычнымі ўладамі. Цяпер на яе месцы – праезд для аўтамабіляў на стаянку каля праваслаўнага сабора.

Капліца. Погляд з боку кармеліцкай святыні. *Фота Юльюша Клоса, Літоўскі дзяржаўны гістарычны архіў*

А вось фігура Распятага Хрыста з капліцы магла захавацца. Рэстаўратар Ігар Сурмачэўскі кажа, што Распяцце, якое вісіць у левай наве касцёла Святой Тройцы ў Глыбокім, вельмі старажытнае і паходзіць з XVII стагоддзя. Вядома, што ў гэтым касцёле змешчаныя многія рэчы, якія знаходзіліся ў святынях глыбоцкіх кармелітаў босых, которыя ў 1864 годзе царскі ўрад забраў у каталікоў і аддаў праваслаўным. Можна выказаць гіпотэзу, што гэта тое самае Распяцце з капліцы ў куце кляштарнай агароджы. Праўда, цвёрдых доказаў на карысць гэтай версіі пакуль што няма.

Капліца. Погляд звонку агароджы кармеліцкага кляштара. *Фота Ежага Дулевіча*

Вядомыя два фотаздымкі згаданай капліцы, зробленыя ў 1920-я гады. Адзін здымак – з прыцаркоўнай тэрыторыі – зрабіў Юльюш Клос, прафесар універсітэта ў Вільні. Другі – Ежы Дулевіч, аўтар шматлікіх краязнаўчых фотаздымкаў Глыбоччыны. Ён паказвае, як выглядала капліца са знешняга боку кляштарнага комплексу, з боку цяперашняга будынка раённай міліцыі. Гэты здымак знайшоў і набыў летась у адной з антыкварных крамаў у Варшаве аўтар гэтых радкоў.

Вывучаючы згаданыя фотаздымкі, мы можам даведацца дэталі выгляду капліцы. Знутры агароджы, з боку кармеліцкай святыні, капліца была паўкруглай. Над яе ўваходам і з левага боку былі змешчаны фігуркі анёлаў. Звонку яе сцены былі працягам мураванай агароджы комплексу кляштара і заканчваліся прамым вуглом. Знешнія сцены падтрымліваліся контрфорсамі. "Круглыя" вокны, відаць з дакумента, былі паўкруглымі. Увесь выгляд капліцы быў простым і без вялікай знешняй аздобы.

Можа, калі-небудзь у кагосьці дойдуць рукі, каб адбудаваць капліцу. Не так важна, якой канфесіі яна будзе належаць і ці будзе ўвогуле сакральным аб'ектам, але добра будзе, калі гэты элемент краявіду старога Глыбокага адновяць.

***Кастусь Шыталь***

# Святыя і алкаголь

**У нумары 1 (142) "Каталіцкага Весніка" быў змешчаны артыкул пра манахаў і алкаголь, а таксама пра традыцыі кляштарнага броварства ў Беларусі. Хацелася б адзначыць, што аматарамі добрага піва і віна былі не толькі шараговыя манахі, але і тыя, каго Касцёл залічыў да святых і блаславёных.**

Каталіцкія манастыры з часоў Сярэднявечча з'яўляліся цэнтрамі півавярэння і прыгатавання віна. У некаторых крыніцах адзначаецца, што да XII ст. манаполію на выраб піва мелі выключна кляштары. Гэты напой выкарыстоўваўся як для ўнутраных патрэбаў, так і для гасцей і пілігрымаў. Спажыванне алкаголю агаворвалася і ў ордэнскіх статутах. Напрыклад, піва не толькі дазвалялася, але і рэкамендавалася падчас пастоў, нават самых строгіх, якім, напрыклад, быў дзень Вялікай Пятніцы. Гэта адбывалася ў адпаведнасці з правілам: "напоі не парушаюць посту". Яго спажыванне гарантавала здароўе, у адрозненне ад вады, што не заўсёды была добрай якасці. Дабаўленне раслін, некаторыя з якіх па сённяшняй класіфікацыі можна аднесці да лекавых, нават пераўтварала піва у карысны напой.

Шматвяковая традыцыя прыгатавання і ўжывання піва і віна ў каталіцкіх манастырах і ў грамадстве ў цэлым натуральным чынам паўплывала на тое, што Каталіцкі Касцёл вызначыў шэраг святых, каторыя лічацца заступнікамі тых людзей, чые прафесіі звязаныя з півавараннем і вінаробствам. Сёння агульнавядомым з'яўляецца святы Патрык. Ёсць легенда, што ён не мог здзейсніць абрад экзарцызму, калі яму прынеслі дрэннае піва. А а як толькі падалі добрае, тут жа абрад быў завершаны. Традыцыя яго шанавання нашмат больш сучасная, чым іншых святых. Аднак святкаванне дня св. Патрыка не параўнальнае па маштабах з успамінамі іншых нябесных заступнікаў.

Адным з першых святых-апекуноў броварства з'яўляецца св. Арнульф з Меца, інакш – св. Арнульф Півоварскі (нар. др. пал. VI ст.). – біскуп Меца. Пры жыцці ён быў вядомы тым, што меў вялікую сілу і лёгка падымаў бочкі, напоўненыя півам. Паводле адной з легендаў, ён замяняў пустыя піўныя келіхі на поўныя, па іншай – размножыў колькасць піва. Таксама, паводле легенды, на пахаванні святога, калі яго пачалі класці ў труну, на небе з'явіліся анёлы, якія пырскалі півам на твары трунароў. Яму прыпісваюць выраз: "З чалавечага поту і Божай любові прыйшло на гэты свет піва".

Яшчэ адзін святы-апякун піваў сараў таксама мае імя Арнульф, аднак жыў ён у XI ст. і быў абатам манастыра Сен-Медар. У каталіцкай традыцыі ён вядомы як апякун зборшчыкаў хмелю і піваварў. Падчас яго кіраўніцтва манастырам там пачалі варыць піва. Ён жа заахвочваў манахаў і сялян з прылеглых вёсак піць піва, паколькі лічыў, што гэта карысна для здароўя. У агіяграфіі ёсць легенда пра тое, як ён дапамог бровару ў горадзе, ля каторага знаходзіўся манастыр. Піва ў тым броварэ варылі дрэннае, і гаражане прыйшлі да манаха па дапамогу. Арнульф, паразважаўшы, вырашыў, што прычынай гэтага з'яўлялася кепская вада, якую набіралі ў найбліжэйшай рацэ. Калі ён апусціў туды свой пастарал, вада ачысцілася. Аднячасова спынілася і эпідэмія халеры, што бушавала ў рэгіёне. Гэта палічылі цудам абата, і да сённяшняга дня ў тым рэгіёне моляцца да св. Арнульфа, каб піва было добрай якасці. Асабліва шануюць гэтага святога ў Бельгіі.

Лічыцца, што менавіта яму належыць аўтарства малітвы блаславення піва, якая гучыць наступным чынам: "Benedicite, Domine, creaturam istam cerevisae, quam ex adipe frumenti producere dignatus es: ut sit remedium salutare humano generi: et praesta per invocationem nominis tui sancti, ut, quicumque ex ea biberint, sanitatem corporis, et animae tutelam percipiant. Per Christum Dominum nostrum. Amen ("Блаславі, Пане, гэтае піва, якое Ты дазволіў стварыць з мякаці зерня; няхай будзе яно збавенным лекам для чалавечага роду, і дай яго нам праз узгаданне Твайго Святога Імя. Праз Хрыста, Пана нашага. Амэн").

Св. Бэнэдыкт, які лічыцца бацькам еўрапейскага манаства, у сваім статуце першапачаткова не дазваляў спажываць алкаголь. Аднак з цягам часу былі зроблены паслабленні. Датычна віна ў статуце адзначалася: "Так относительно вина, имея во внимании немощь немощных, полагаем, что для каждого достаточно будет на день стакана вина. А кому Бог даст силу воздержаться, тот да ведает, что это достойно награды своей.

Если положение места, или труд, или время года требуют прибавки к этой мере, – на воле аввы оставляется сделать это или нет; да имеет он только во внимании, чтоб не вкралось опьянение, ибо вино, как читаем, есть вещь вовсе не монашеская. Но как в наши дни нельзя убедить в этом монахов, согласимся по крайней мере не пить до сыта, но воздержнее. Потому что вино и мудрых доводит до отступления и падения. Если случится, что где-нибудь и такой меры достать нельзя или и совсем ничего, то да благословит Бог обитающих там (на терпение): пусть не ропщут. На то паче всего всех надо убеждать, чтоб не роптали".

Св. Хільдэгарда, якая ў Рымска-каталіцкім Касцёле мае статус доктара Касцёла, таксама ў сваіх працах неаднаразова выказвалася пра алкаголь. Адной з першых яна апісала ўласцівасці хмелю. Св. Хільдэгарда лічыла, што найлепшым півам з'яўляецца пшанічнае, але і тое, якое вараць з ячменю і жыта, таксама можна рэкамендаваць. Віно як напой, каторы спаталяе прагу, яна не раіла, але лічыла, што ён вельмі пасуе як лекавы сродак і як складнік некаторых лекаў.

Яшчэ адзін ірландскі святы – св. Калумбан малодшы – у свой час быў вядомы перадусім вельмі суровым статутам для ірландскай манаскай супольнасці. Аднячасова ён быў вялікім аматарам піва. Паводле легендаў, размнажэнне піва стала найбольш распаўсюджаным цудам гэтага святога. Акрамя згаданых святых у Рымска-каталіцкім Касцёле апекунамі півавараў і піваварэння лічацца таксама св. Аўгусцін, св. Лука-евангеліст і св. Вацлаў.

***Раіса Зянюк***

# Ірэнэй Ліёнскі




**Ірэнэй Ліёнскі ці Смірнскі?**

Касцёл у Смірне, пра які мы ўжо ведаем дзякуючы Палікарпу, велікамучаніку, каторы аддаў сваё жыццё за Хрыста на пачатку II ст., даў нам яшчэ аднаго вялікага Айца старажытнасці – Ірэнэя Ліёнскага. Ірэнэя называюць Ліёнскім, бо ён быў біскупам Ліёна. А паходзіў сам са Смірны і быў вучнем Палікарпа, вучня Апостала Яна. Такім чынам, мы бачым тут працяг традыцыі Апостальскіх Айцоў.

Нам да канца невядома, чаму гістарычныя звесткі пра гэты самы ранні перыяд гісторыі Касцёла настолькі скупыя. З усходніх гістарычных крыніц мы даведваемся, што Ірэнэй пакінуў Смірну і адправіўся ў Галію (цяперашняя Францыя). Далей мы сустракаем яго ў Ліёне ўжо ў 177 г. як прэзбітара (святара) Касцёла, каторы, паводле заходніх крыніц, нарадзіўся менавіта ў Галіі, у горадзе Ліён, хоць гэта, як вядома, няпраўда.

Ірэнэй знаходзіўся ў спісе прэзбітараў, якія ездзілі ў Рым да Папы Элеўтэрыя, каб перадаць яму Пасланне ад хрысціянскай супольнасці ў Ліёне. І тады Ірэнэю вельмі пашанцавала: гэтая паездка выратавала яго ад пераследу, што пачаўся тады ў Ліёне. У той час аддалі сваё жыццё мясцовы ліёнскі біскуп Патын і многія прэзбітары. Ірэнэй жа, паколькі знаходзіўся па-за горадам, захаваў сабе жыццё. Калі ён вярнуўся ў Ліён, мясцовае духавенства і вернікі абралі яго біскупам свайго горада. Такім чынам, т.зв. “азіяцкая традыцыя”, якая паходзіла ад Апостала Яна, перанеслася на Захад і прысутнічала ў галійскім Касцёле.

Ірэнэй кіраваў Касцёлам у Галіі да 202 ці 203 гг., калі зноў пачаўся пераслед веры. У той час ён прыняў мучаніцкую смерць як пастыр пераследаванай касцельнай супольнасці.

**Міратворац**

Імя “Ірэнэй” на старажытнагрэцкай мове азначае “мірны, спакойны”. Яно мела сімвалічнае значэнне ў жыцці і дзейнасці гэтага Айца Касцёла. Уся справа ў тым, што Ірэнэй, як раней яго настаўнік Палікарп, быў уцягнуты ў міжкасцельныя спрэчкі пра дату святкавання Вялікадня. Папа Віктар (189-198 гг.) пагражаў адлучэннем ад Касцёла ўсім, хто не прыме рымскага парадку святкавання Вялікадня, г.зн. у першую нядзелю пасля 14 нісана па габрэйскім календары ці таксама ў першую нядзелю пасля першай веснавой поўні месяца, што было адным і тым жа днём, паколькі габрэйскі каляндар абапіраўся на фазы месяца.

Напружанне расло. Сітуацыя абвастралася. Ніхто нават не думаў саступіць Папу і зламаць старадаўні звычай. І тады Ірэнэй сам звярнуўся да Рымскага Пантыфіка з пасланнем міру і супакою, словы якога нам перадае Эўзэбій Цэзарэйскі ў творы “Касцельная гісторыя”. Ліёнскі біскуп прасіў Папу не адлучаць ад адзінства з Рымскім Касцёлам святароў і вернікаў усходніх Касцёлаў, якія святкавалі Пасху 14 нісана, матывуючы гэта тым, што іх продкі праз памылку менавіта так пачалі святкаваць Уваскрасенне Пана, а потым гэта ўвайшло ў традыцыю і было перададзена наступным пакаленням. Аўтар паслання зазначыў, што розніца ў датах святкавання з’яўляецца прыкметай не розніцы, але адзінства ўсіх Касцёлаў. Чаму? Бо, нягледзячы на сам факт адрознення, усе паміж сабою жывуць мірна. Сам жа біскуп лічыць, што трэба святкаваць Вялікдзень у нядзелю. Просьбу Ірэнэя выслухалі, і так, як у часы Палікарпа Смірнскага, было захавана касцельнае адзінства. Вось гэта дыпламат, вось гэта міратворац!

**Змагар з гнозісам**

Ірэнэй Ліёнскі пакінуў пасля сябе два вельмі важныя творы: пяць кніг “Супраць ерасяў” (лац. Adversus haereses) і твор “Выклад апостальскага навучання”. Яго галоўным пастырскім заданнем, акрамя клопату пра павелічэнне святасці чальцоў супольнасці, была палеміка (моцная і рашучая спрэчка) з гнастычным рухам, які ў той час моцна распаўсюдзіўся. Палеміка з гнозісам у гэты час вялася практычна ва ўсіх хрысціянскіх супольнасцях: у Малой Азіі, Егіпце, Сірыі ці той жа Галіі. Сапраўды, тады, у канцы II ст., гэта была самая вялікая праблема. Хрысціянства вяло самую вялікую дыскусію з людзьмі, якія так ці інакш былі зацікаўленыя ў евангельскім пасланні, але адначасова спрабавалі тлумачыць яго па-іншаму, г.зн., гнастычна. Гнозіс (ад грэч. “пазнанне”) з’яўляецца своеасаблівай рэлігійна-філасофскай з’явай, насуперак усім меркаванням, блізкай да хрысціянства. Блізкай, таму што розныя гнастычныя плыні прапаноўвалі ўваходжанне ў таямніцу пазнання Бога і чалавека. Аднак у канчатковым выніку многія толькі знешнія падабенствы да хрысціянства не ішлі ў пары з яго прававерным вучэннем. Наадварот, гэта было цалкам супярэчлівае навучанне.

Гнозіс абвяшчаў фундаментальны дуалізм у свеце, г.зн. існаванне практычна роўных сілаў Дабра і Зла. Бог ёсць Дабром, а матэрыя і тое, што з ёй сутыкаецца, – гэта Зло. Факт стварэння свету ў гнозісе трактаваўся як няшчасны выпадак, як нейкая памылка, якая ўзнікла па лініі дух – матэрыя. Таму Стваральнік гэтага свету разглядаўся гностыкамі як злы Дэміюрг (“Боскі ганчар”), які дзейнічае альбо з гонару, альбо з іншых злых матываў. Хрысціянства ж прытрымліваецца пазіцыі, што свет, хоць і грэшны, быў створаны як добры. Ірэнэй інтэнсіўна спрачаецца са шматлікімі гнастычнымі ерасямі, адстойваючы праўдзівасць хрысціянскай дактрыны.

**“Следчы” у справах апостальскага вучэння**

Вялікай праблемай таго часу было тое, што гнастычныя рухі часта спасылаліся на вучэнне Апосталаў. Тады існавалі Евангеллі, падпісаныя імёнамі Апосталаў: Евангелле Тамаша, Евангелле Юды, нейкае тайнае Евангелле Якуба і іншыя. Ірэнэй жа грунтаваў сваю палеміку ў першую чаргу на тым, што мы сёння называем “традыцыяй”, г.зн. на вывучэнні таго, адкуль паходзіць тая ці іншая навука. Фактычна ён з’яўляецца першым тэолагам, які распрацаваў навуковую тэорыю пра тое, што сапраўднае хрысціянскае вучэнне, каторае перадаецца праз біскупаў, калі мы будзем шукаць яго першакрыніцу, у канчатковым выніку прывядзе нас да аднаго з Апосталаў.

Ірэнэй патрабуе ад хрысціян даследаваць, ці з’яўляецца вучэнне, якое яны слухаюць, нейкім чалавечым вынаходніцтвам, г.зн., ці яго прыдумаў нейкі мудрэц або філосаф, ці гэта пераказ таго, што атрымалі Апосталы. Паводле яго, сапраўдная традыцыя, г.зн. прававерная евангельскае вучэнне, з’яўляецца перадусім публічнай. Няма ніякага таемнага вучэння толькі для пасвячоных, няма таксама нейкіх простых банальных ведаў для невуцкага зброду і больш глыбокага спазнання рэчаіснасці для адукаваных, разумных і мудрых людзей. Усё хрысціянскае вучэнне прапаведуецца публічна і для ўсіх. Акрамя таго, сапраўдная традыцыя ў канчатковым выніку ёсць справай Духа Святога. Сам Дух Святы абараняе яе, каб евангельскае пасланне, якое вандруе з месца ў месца разам з тымі, у чым розуме і сэрцы яно захоўваецца, было нязменным і праўдзівым. Ірэнэй падае спіс біскупаў Рымскага Касцёла, каб пазначыць, каго вернікі маюць слухаць, хто з’яўляецца тым сапраўдным захавальнікам гэтай традыцыі, перададзенай Апосталамі і даручанай Касцёлу.

Вучэнне Ірэнэя Ліёнскага застаецца па-ранейшаму актуальным, заўсёды жывым. Бо і сёння існуюць спробы тлумачэння Святога Пісання, якія хоць і нараджаюцца пад уплывам хрысціянскага навучання, аднак не вырастаюць з апостальскага вучэння. Таму на працягу стагоддзяў аж да сённяшняга дня актуальная парада Ірэнэя: трэба вывучаць традыцыі, г.зн. даследаваць, адкуль бярэцца тое ці іншае вучэнне…

Ну і не забыцца паверыць толькі вучэнню Хрыста, перададзенаму нам Апосталамі і захаванаму іх вернымі паслядоўнікамі.

*Кс. Павел Эйсмант*

# Біскуп Аляксандр Кашкевіч удзяліў семінарыстам паслугі лектараў і акалітаў

**Каб стаць святарамі, семінарыстам трэба прайсці пэўныя этапы фармацыі, якія дапамагаюць ім лепш усвядоміць сэнс будучага святарскага служэння. У сувязі з гэтым 12 сакавіка, у III нядзелю Вялікага посту, студэнтам 3 курса Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне была ўдзелена паслуга лектарату, а студэнтам 4 курса – паслуга акалітату.**

Таксама ў гэты дзень двое семінарыстаў упершыню апранулі духоўнае адзенне – сутаны.

У капліцы семінарыі на святой Імшы прысутнічалі мадэратары навучальнай установы на чале з рэктарам кс. канонікам Віталем Вайцяхоўскім, а таксама студэнты і іх блізкія.

Эўхарыстыю ўзначаліў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч, які ўстанавіў на ёй новых лектараў і акалітаў і асвяціў сутаны. Біскуп заахвоціў семінарыстаў працягваць узрастаць у пакліканні, умацоўваючы сваю веру і яшчэ больш набліжаючыся да Хрыста. Гамілію прамовіў духоўны айцец семінарыі кс. Ян Сарэла.

Семінарысты, якія прынялі паслугі лектарату і акалітату, зрабілі такім чынам яшчэ адзін вельмі значны крок на шляху да святой мэты: быць тымі, хто працягвае адкупленчую місію Хрыста і з’яўляецца мостам паміж Богам і людзьмі, нягледзячы на сваю чалавечую абмежаванасць.

Лектары абвяшчаюць жыццядайную моц Святога Пісання з амбоны падчас Эўхарыстыі, а таксама, чэрпаючы з Божага слова веру і адвагу, увасабляюць яго ў жыццё ў выкананні штодзённых абавязкаў.

Акалітаў, у сваю чаргу, Касцёл палічыў годнымі дакранацца да найбольшай Таямніцы хрысціянскай веры, каб яны маглі яшчэ больш прыпадобніцца да свайго Настаўніка Езуса Хрыста.

*Grodnensis.by*



# “Няма сэнсу рэзаць”. Сацыёлаг пра лёс польскай мовы ў Касцёле ў Беларусі

**Польская мова канфрантуе з беларускай ці проста займае належнае ёй месца? Якія рэформы з ёй адбыліся на захадзе і ўсходзе краіны? Ці мае яна будучыню ў нашым Касцёле? Гэтыя і іншыя пытанні абмяркоўваем з даследчыкам Беларусі, кандыдатам сацыялагічных навук спадаром Аляксеем Ластоўскім.**

**– Адным з галоўных пастанаўленняў ІІ Ватыканскага сабору (1962 – 1965) стала ўвядзенне нацыянальных ці мясцовых моваў у Касцёле. Як гэты працэс адбываўся на тэрыторыі Беларусі?**

– Трэба зразумець, што ў той час Каталіцкі Касцёл у Беларусі знаходзіўся ва ўмовах савецкага панавання. Большасць святыняў была зачыненая, а святары, якія служылі пераважна ў заходняй частцы краіны, былі з Польшчы. Таму рашэнне ІІ ВС было скарыстана ў першую чаргу як пераход да польскай мовы. Наколькі вядома, у той час толькі адзін ксёндз спрабаваў перайсці на беларускую мову – а. Уладзіслаў Чарняўскі з Вішнева. Вядома, што гэта выклікала абурэнне з боку як святароў, так і вернікаў, каторыя пісалі на яго скаргі. З іншага боку, а. Чарняўскі карыстаўся высокім маральным аўтарытэтам. У Ватыкане нават узнікла ініцыятыва прызначыць яго біскупам, але гэта выклікала супраціў з боку савецкіх уладаў. Мы бачым, што ўжо тады Святы Пасад думаў пра развіццё і перспектывы на будучыню. Калі будаваць Касцёл у Беларусі, то гэта не павінен быць польскі Касцёл.

**– Як адбывалася беларусізацыя Касцёла ў Беларусі ў 90-ыя? Як выбудоўвалася актуальная пазіцыя? Вядома, напрыклад, што кардынал Казімір Свёнтэк не адразу быў прыхільнікам беларушчыны.**

– Кардынал Свёнтэк і арцыбіскуп Кандрусевіч – гэта людзі традыцыйнай школы. Яны выраслі ў польскай культуры, польская мова ў іх час была галоўнай у Касцёле, і важна разумець гэты гістарычны аспект. Аднак у прынцыпе абодва здолелі пераўзысці сваё выхаванне, звычку мыслення і адаптавацца да тых задач, якія паставіў перад імі Касцёл.

У 90-ыя мы мелі дачыненне з фармаваннем незалежнай краіны. І паўстала пытанне, якім будзе месца Касцёла ў гэтай краіне. Мне падаецца, было прынята слушнае і вельмі важнае стратэгічнае рашэнне пра тое, што Каталіцкі Касцёл звязвае сябе з беларускім народам. Важнай стала падтрымка нацыянальнай ідэнтычнасці. Каталіцкі вернік стаў актыўным чалавекам, убудаваным у грамадскае жыццё.

Стратэгічная лінія на арыентацыю на беларускую пазіцыю паступова пачала рэалізоўвацца праз падрыхтоўку якасных перакладаў Бібліі і Літургіі, якія б адпавядалі крытэрыям Касцёла. Падобныя спробы існавалі і ў міжваенныя часы, але тэксты патрабавалі адаптацыі, таму былі створаныя адмысловыя камісіі па перакладах.

Другі важны фактар – стаўка на пераход на мясцовыя кадры. Калі мы маем беларускі Касцёл, то варта мець беларускіх ксяндзоў, якія тут выраслі, разумеюць мясцовы люд, яго патрэбы. У гэтым пытанні таксама адчуваўся істотны ціск з боку дзяржавы, якая не хацела мець ксяндзоў з Польшчы, але гэта другасная прычына.

**– Наколькі згаданы транзітны перыяд быў розным для ўсходу і захаду Беларусі?**

– Калі кажам пра агульную стратэгію, яна заўжды рэалізуецца ў канкрэтных культурных умовах. Сітуацыя ў Беларусі не была ўніфікаваная, таму прымяненне стратэгіі значна адрознівалася на ўсходзе і захадзе.

На Міншчыне Касцёл стаў апірышчам для людзей, якія хацелі захоўваць беларускую мову, бо перамены ў краіне адбываліся ва ўмовах русіфікацыі. Дзякуючы беларушчыне Касцёл у Мінску змог падступіцца да сэрцаў моладзі, выкарыстоўваючы мову, якая прамаўляла да іх свядомасці. У яго атрымалася наладзіць інтэнсіўную працу з маладымі людзьмі, паказваючы, што вера – гэта актуальна, і што Касцёл можа стаць важнай інстытуцыяй у іх жыцці.

Віцебшчына і Гомельшчына – моцна русіфікаваныя рэгіёны, і там Касцёл выступіў прытулкам, які адкрыў партал у іншы сусвет, не толькі рэлігійны. Ён дазволіў вернікам трапіць у іншае сацыяльнае атачэнне, збудаванае з каштоўнасцямі, належнымі на еўрапейскую культуру.

На Магілёўшчыне, дзе быў вельмі моцны расійскі ўплыў, паспрабавалі ўвесці св. Імшы на рускай мове, але эксперымент праваліўся. Людзі не сталі хадзіць на гэтыя службы, і падобных ініцыятыў больш не паўставала. У цэнтральнай і ўсходняй частках Беларусі галоўнай стала беларуская мова, польская адышла на другое месца.

Зусім іншая сітуацыя панавала ў Гродзенскай дыяцэзіі. Касцёл быў вымушаны застацца на больш традыцыяналісцкай пазіцыі, дзе перамог вектар арыентацыі на існуючыя нацыянальныя культурныя супольнасці, дзе трывае этнакультурны стэрэатып “каталік – гэта паляк”. І для захавання свядомасці палякаў, якія існуюць зусім не ў польскамоўным атачэнні і амаль не ўжываюць у сваім жыцці польскую мову, стала прынцыпова важным захаваць польскую мову ў Касцёле. Калі б там польская мова была заменена на беларускую, то праз пару генерацый палякі б сталі беларусамі – гэта натуральны працэс асіміляцыі. Таму, паспрабаваўшы пашырыць беларускую мову і сустрэўшы шматлікія канфлікты, Касцёл вырашыў знайсці кампрамісную мадэль, якая б улічвала і пажаданні мясцовага насельніцтва.

У выніку ў Касцёле на Гродзеншчыне прыярытэт застаўся ў польскай мовы з паступовым увядзеннем беларускай.

**– Якім Вы бачыце вырашэнне моўнага пытання на захадзе Беларусі? З аднаго боку ўсё больш вернікаў хоча чуць беларускую мову падчас св. Імшаў, з іншага – палякі баяцца страціць польскую як сакральную мову і частку сваёй ідэнтычнасці.**

– Пытанне ў тым, ці павінен Касцёл задаваць правілы, ці сыходзіць з таго, што хочуць парафіяне. Касцёл – гэта ў першую чаргу вернікі, і важна мець на ўвазе іх каштоўнасці. Відавочна, што ў цэнтральнай і ўсходняй частках Беларусі быў знойдзены варыянт, які ўсіх задавальняе. Але на Гарадзеншчыне даводзіцца падтрымліваць крохкі баланс паміж польскай і беларускай мовамі. На маю думку, няма сэнсу там нешта рабіць, рэзаць. Так ці інакш беларуская мова будзе пашырацца ў дыяцэзіі – гэта натуральны працэс.

> **Нічога не трэба навязваць рэпрэсіўнымі рашэннямі, якія прымаюцца ўверсе.**

Варта ўважліва сачыць за тым, што хочуць людзі, але пры гэтым думаць на перспектыву.

**– Св. Імшы па-польску не абмяжоўваецца толькі Заходняй Беларуссю. Імшы па-польску ёсць і ў Літве, і гэта натуральна там. Чаму?**

– Сучасныя дзяржаўныя межы праходзяць праз традыцыйныя супольнасці, якія складваліся стагоддзямі на гэтых землях. Мяжа паміж Беларуссю і Літвою ўзнікла адносна нядаўна. Палякі Віленшчыны – гэта адзін рэгіён, які размаўляў на адной і той жа мове. Яны маюць тыя ж самыя праблемы, што і палякі ў Беларусі. Для гэтых людзей важна захоўваць сваю мову, традыцыі, культуру. Ім куды складаней інтэгравацца ў літоўскую ідэнтычнасць, бо асноўны тут моўны падзел. Ты літовец, калі размаўляеш па-літоўску. Інакш быць не можа. Пераход на літоўскую мову тых жа службаў азначае, што палякі адразу становяцца літоўцамі. Таму для мясцовых палякаў захаванне іх мовы становіцца пытаннем захавання сябе.

Разам з тым у Беларусі больш грамадзянская мадэль ідэнтычнасці: ты беларус, таму што жывеш тут, і пры гэтым табе працей захоўваць розныя моўныя і культурныя мадэлі.



**– Чаму геаграфічна пераходны рэгіён Заходняй Беларусі не перацякае ў беларускія службы на ўсходзе Польшчы? Там Касцёл выключна польскі, але ёсць шмат беларусаў.**

– Беларускую свядомасць на Падляшшы будуюць тыя, хто захоўвае вернасць Праваслаўнай Царкве. Беларусы-каталікі там імкліва становяцца палякамі. Таму для мясцовай грамады прынцыпова важна захаванне праваслаўнай культуры. Памятаю гісторыю, як я ўдзельнічаў у канферэнцыі ў Беластоку – рабіў даклад пра беларускіх палякаў. Да мяне падышоў сенатар Ян Чыквін, які прадстаўляў інтарэсы беластоцкіх беларусаў. Пачаў са мной зацікаўлена размаўляць, запрашаць на службы ў царкву. Я сказаў, што каталік. Ён на мяне паглядзеў здзіўлена, развярнуўся і пайшоў...

**– Якія асноўныя змены за апошнія трыццаць гадоў адбыліся з польскай мовай у беларускім Касцёле?**

– Галоўная тэндэнцыя – разбурэнне стэрэатыпу, які быў трывалы стагоддзямі, што каталік – гэта паляк. Касцёл замацоўвае мадэль, што і беларус можа быць каталікам. Асабліва ў апошнія часы Касцёл ці не адзіная інстытуцыя, якая захоўвае беларускую свядомасць. Адбыўся пераход ад арыентацыі “мы захоўваем польскасць” да арыентацыі “мы адкрытыя на будучыню”. Беларусь змяняецца, расце. І Касцёл у адказ не імкнецца захоўваць этнакультурныя стэрэатыпы, якія проста адамруць з часам.

**– На Вашую думку, якія перспектывы чакаюць польскую мову ў Касцёле ў Беларусі?**

– Пытанне складанае, бо не ўсё залежыць ад толькі інтэнцый Касцёла ці ад логікі развіцця ідэнтычнасцяў. Ёсць яшчэ фактар дзяржаўных уладаў, якія імкнуцца максімальна выцясніць польскую мову з Касцёла. Наколькі гэта можа быць рэалізавана палітычнымі крокамі, сказаць складана. Калі мы гэты фактар пакінем збоку, то можна было б знайсці мадэль суіснавання польскай і беларускай моваў, якая дапамагала б захоўваць і культурную адметнасць мясцовых палякаў, і не стварала б з іх адчужанай культурнай групы.

> **Я не бачу іншай мадэлі развіцця і суіснавання Пamежжа апрача той, калі розныя культуры вядуць дыялог, узбагачаючы адна адну.**

Пры абранні ў Касцёле беларускай мовы як галоўнай, што ўжо зроблена, польскую я бачу важнай і як для гістарычнай традыцыі, і важнай для захавання этнакультурнай разнастайнасці. Цалкам адмаўляцца ад польскай мовы нам не варта, і з павагай да разумення трэба ставіцца да тых людзей, якія хочуць маліцца па-польску.

* * *

**Кс. Юрый Бяганскі, кусташ санктуарыя Маці Божай Каралевы нашых сем’яў у Тракелях:**

*"На тэрыторыі, дзе я служу, пражывае збольшага старэйшае пакаленне, якое ў Касцёле здаўна карыстаецца польскай мовай. Нядаўна мы сабраліся з парафіянамі пачысціць мясцовыя могілкі з XIX ст. Там усе помнікі падпісаныя па-польску, гэта частка гісторыі заходніх зямель. Адпаведна, большасць службаў у парафіі адбываецца па-польску. Я разумею, што ёсць людзі, якія гэтую мову разумеюць менш, і таму адаптую яе ўжыванне пад абставіны. Напрыклад, калі праводзім набажэнства Крыжовага шляху для дзяцей, то робім гэта па-беларуску. Мова ў Касцёле перш за ўсё з’яўляецца для мяне інструментам евангелізацыі, а не спосабам вырашэння палітычных пытанняў. Я не думаю, што ўсе адразу пабягуць у Касцёл, калі св. Імшы будуць цэлебравацца выключна на беларускай мове. Таксама не думаю, што людзі перастануць удзельнічаць у службах, калі яны будуць адбывацца па-польску".*

**Кс. Анджэй Бульчак, у мінулым служыў на Віцебшчыне. Цяпер з’яўляецца душпастырам супольнасці беларусаў у Гданьску (Польшча):**

*"Калі я прыехаў у Беларусь, то збольшага ведаў рускую мову. Напэўна, гэта дапамагло мне лягчэй засвоіць мясцовую мову. Маё служэнне праходзіла ў беларускамоўных парафіях, таму вывучэнне мовы стала для мяне першасным заданнем. Для мяне было важна вывучыць яе, каб больш зразумела прамаўляць да парафіянаў. Пасля я раскрыў для сябе прыгажосць беларускай мовы. І сёння, ізноў служачы ў Польшчы, я актыўна ёй карыстаюся, дапамагаючы беларусам, якія жывуць за мяжой. Для іх таксама важна, каб яны маглі яднацца ў эміграцыі, молячыся і размаўляючы на роднай мове".*

*Ангеліна Марцішэўская*

# “Бацькоўская акадэмія”: курс для татаў і мамаў ад хрысціянскіх псіхолагаў у Мінску

**Бацькоўства старое як свет, аднак ніхто не прыдумаў нейкай ідэальнай сістэмы, якая б вырашала яго праблемы. Унікальнасць чалавека патрабуе непаўторнага падыходу мамы і таты да кожнага дзіцяці.**

■ Арцём Ткачук



Разам з гэтым у народзе кажуць: “малыя дзеткі – малыя праблемы, а ў вялікіх – вялікія”. Дзіцё расце і патрабуе іншай увагі і іншых падыходаў. Сёння мы распавядаем пра ініцыятыву сталічных адмыслоўцаў па дапамозе бацькам у выхаванні дзяцей. “Бацькоўства не страшна, гэта натуральна і класна”, – кажуць яны.

Сярэдні ўзрост беларусаў, якія заключаюць шлюб і нараджаюць дзяцей, расце з кожным годам. Нацыянальны статыстычна камітэт падлічыў, што ў сярэднім у 2021 г. беларускі нараджалі першынца ў 26,9 гадоў. Гэта на два гады пазней, чым у 2010-ым. За такі ж перыяд сярэдні ўзрост жанчыны пры нараджэнні дзіцяці вырас на 2,9 гадоў.

**Гэта агульнаеўрапейскі трэнд, і наша краіна тут не выключэнне: сям’я і дзеці адкладваюцца на больш сталы ўзрост.**

Сёння ўласная і прафесійная самарэалізацыя з’яўляюцца першаснымі для моладзі. Разам з гэтым сучасныя маладыя бацькі падыходзяць да працэсу выхавання дзяцей больш асэнсавана. Попыт на бацькоўскае выхаванне расце. У інстаграме можна знайсці сотні акаўнтаў сямейных псіхолагаў-практыкаў. Для прыкладу, Валянціна Паеўская – вядомы дзіцячы нейрапсіхолаг – мае больш за 600 тысяч падпісчыкаў.

**Усё часцей мамы і таты асэнсоўваюць свае дзіцячыя траўмы і стараюцца не раніць сваіх дзяцей.**

Нягледзячы на гэта, неверагодныя аб’ёмы парадаў для бацькоў таксама з’яўляюцца выклікам. Вольга Паўлоўская, псіхолаг “Бацькоўскай акадэміі” пры Хрысціянскім сацыяльным цэнтры ў Мінску, кажа, што нярэдка ад вялікай колькасці інфармацыі бацькі пачынаюць губляцца ў тым, як урэшце рэшт правільна. “Часам здаецца прасцей не пачынаць увогуле”, – з усмешкай дадае яна. Анлайн-інфармацыя дапамагае, аднак кожны чалавек патрабуе асаблівага падыходу. Таму асабістая размова і сустрэча са спецыялістам застаюцца высока запатрабаванымі.

### “Бацькоўская акадэмія”: пачатак і ідэя

Восенню 2022 года супрацоўніцы Хрысціянскага сацыяльнага цэнтра ў Мінску пачынаюць актыўна рыхтаваць курс для мамаў і татаў. У студзені аб’яўляецца набор, і колькасць запісаных пераўзыходзіць усе чаканні арганізатараў. Заняткамі зацікавілася некалькі дзясяткаў бацькоў.

Арганізатары праекта робяць ухіл на афлайн-сустрэчы і практычнасць. “У інтэрнэце можна казаць што заўгодна. Ёсць шмат блогераў, шмат кніг, і свой шлях часам знайсці складана. Сіла нашага праекта – у жывых сустрэчах, непасрэдных стасунках. Калі бачыш чалавека, знаёмішся з ім, то гэта ўжо іншы ўзровень адносінаў. Для нас, арганізатараў курса, гэта таксама іншы ўзровень адказнасці”, – кажа Кацярына Шатэрнік, педагог-дэфектолаг і адна з арганізатарак “Бацькоўскай акадэміі”.

Кацярына гаворыць, што сёння існуе меркаванне: бацькоўства – гэта “за вельмі складана і адказна”. Адмыслоўца падкрэслівае, што сэнс акадэміі якраз у тым, каб дапамагаць бацькам зразумець: бацькоўства – гэта не складана, а натуральна. Арганізатары курса грунтуюць свой падыход на “свядомым і пазітыўным бацькоўстве”. “Бацькоўства не страшнае, а прыемнае і з’яўляецца адной з патрэбаў чалавека. Ёсць шмат праблем, трывог, перажыванняў, але гэта ўсё натуральна. Хацелася б падтрымліваць бацькоў, бо ўсебаковая падтрымка на гэтым шляху вельмі важная”, – кажа Вольга Шыкіна, сямейны псіхолаг і выкладчыца “акадэміі”.

### Хрысціянскі бацькоўскі курс для ўсіх

Арганізатары праекта падкрэсліваюць, што дзеці сёння гадуюцца ў зусім іншых умовах і асяродках, чым раней. “За 30 гадоў свет змяніўся каласальна. Параўноўваць, як гадавалі нас і як мы гадуем сёння, немэтазгодна. Праблемы былі і ёсць, але часы змяняюцца і сітуацыі змяняюцца. Зносіны паміж бацькамі і дзецьмі, паміж сужэнцамі таксама. Я думаю, нашы бацькі не адмовіліся б кудысьці схадзіць, каб паслухаць і падзяліцца, калі б у іх была такая магчымасць у свой час”, – кажа Кацярына Шатэрнік.

Каталіцкія сем’і сёння складаюць абсалютную большасць слухачоў. Гэта не адмысловы падыход арганізатараў, а выпадковасць: запіс на заняткі быў адкрыты для ўсіх. Супрацоўнікі Хрысціянскага сацыяльнага цэнтра спадзяюцца, што наступныя наборы будуць збіраць розных людзей. Спадарыня Шатэрнік падкрэслівае, што праблемы ва ўсіх сем'яў аднолькавыя. “Магчыма, у нашых каталіцкіх сужэнстваў меней страху і болей даверу. Яны больш адкрытыя, не баяцца задаваць пытанні, таму што ў іх ёсць базісны давер да нас як да хрысціянскіх спецыялістаў”, – кажа суразмоўца.

Жывыя сустрэчы ствараюць магчымасць непасрэднага кантакту спецыялістаў і бацькоў. Вольга Паўлоўская кажа, што такі фармат дазваляе бацькам задаваць пытанні, заснаваныя на іх уласным досведзе выхавання дзяцей. Псіхолагі ўлічылі ў практычнай частцы і працу над адносінамі сужэнцаў. Водгукі, якія арганізатары атрымліваюць ад бацькоў, пацвярджаюць слушнасць гэтага падыходу.

**“Прыемна, што людзі задаюць шмат пытанняў, паглыбляюцца і, атрымліваючы адказы, часам кажуць: “О, а так можна было?”**

Безумоўна, гэта немагчыма параўнаць ні з якімі анлайн-курсамі. І па-чалавечы гэта проста прыемна”, – дзеліцца Воля Шыкіна.

Свой курс арганізатары параўноўваюць з паходам у Касцёл. “Чалавек можа прыходзіць у храм, пагаджаючыся са сваёй грэшнасцю і недасканаласцю. Падобна і на нашым курсе бацькі могуць разумець сваю недасканаласць, а разам з гэтым атрымаць разуменне і магчымасці вырашэння пэўных пытанняў”, – кажа спадарыня Шыкіна.

### Планы на будучыню

“На дадзены момант галоўнае для нас – давесці да выпуску першую групу і прааналізаваць, як прайшоў курс. Улетку, магчыма, мы арганізуем асобныя сустрэчы ці семінары для бацькоў. А з верасня хочам працаваць крыху інакш: напэўна, будзе некалькі асобных курсаў – для сужэнстваў, якія рыхтуюцца да бацькоўства, для бацькоў дашкольнікаў, для бацькоў падлеткаў”, – распавядае Кацярына Шатэрнік.

Уражаныя поспехам першай “Бацькоўскай акадэміі”, арганізатары ўпэўненыя, што колькасць удзельнікаў будзе толькі расці. Вольга Шыкіна дзеліцца марай, каб “адукацыя для людзей набірала важнасць не толькі ў прафесійным плане, але і ў сямейным”. “Гэта павышае якасць стасункаў, дзякуючы чаму павышаецца і якасць жыцця”, – падкрэслівае яна. У сваю чаргу Вольга Паўлоўская падсумоўвае: “Дзеці вяртаюць нас у стан дзяцінства, і дзякуючы ім разумееш, што шчасце – у простым. Свет класны, нягледзячы на складанасці”.







# "Дзе б мы ні былі, на якой бы мове ні размаўлялі, нас яднае Езус". Душпастырствы беларусаў-католікаў у замежжы

**Цягам апошніх двух гадоў пачалі актыўна развівацца душпастырствы беларусаў-католікаў па-за межамі Беларусі. Вернікі, якія выязджаюць з Радзімы, яднаюцца і шукаюць магчымасці маліцца, вызнаваць сваю веру на роднай мове. Беларуская каталіцкая суполка паўстала нават у Грузіі. "Каталіцкі Веснік" пагутарыў з беларусамі-каталікамі, якія цяпер жывуць у Батумі, Гданьску і Вільні.**

### Батумі: беларусаў-католікаў мала, але яны актыўныя

У грузінскім Батумі католікаў-беларусаў няшмат – каля дваццаці чалавек, з іх толькі чалавек дзесяць пастаянна ходзяць у касцёл. Але гэта не перашкаджае ладзіць разам розныя актыўнасці, распавядае Юлія – мінчанка, якая летась пераехала ў Грузію.

"Я заўсёды кажу: усё залежыць ад нас саміх. Калі мы з'яднаемся, нешта будзем рабіць, то яно і будзе рабіцца, –заўважае Юлія. – Месца нашай галоўнай сустрэчы – касцёл. Тут нас, хто ўжо пэўны час жыве ў Батумі, знаходзяць новыя людзі, якія прыязджаюць, тут яны даведваюцца, што мы робім".

Летась беларускія католікі Батумі разам адзначалі Божае Нараджэнне, спявалі ў мясцовым касцёле Святога Духа беларускія калядкі. Сёлета падчас Вялікага посту праводзяць беларускі Крыжовы шлях, спяваюць Песні жальбы, разам з беларусамі з мясцовага Спеўнага сходу рыхтуюцца да Вялікадня – зноў будуць спяваць беларускія песні ў касцёле. Таксама ўдзельнічаюць у Lectio Divina для рускамоўных вернікаў, якую праводзіць дыякан Батумскай парафіі.

"Парафіяне-грузіны радыя нам, заўсёды запрашаюць удзельнічаць у набажэнствах, розных мерапрыемствах, – кажа Юлія. – Нам прапануюць і чытанні чытаць падчас Імшы часам па-беларуску, але з большага – па-руску, каб усе прысутныя зразумелі".

### "Падчас Імшы гучаць малітвы на грузінскай, рускай, беларускай, англійскай мовах"

Былая мінчанка зазначае, што Батумская парафія – месца яднання вернікаў з самых розных краін. "Цяпер прыходзіць шмат індусаў – напэўна, вучацца тут. У выніку падчас Імшы і Крыжовага шляху гучаць малітвы на грузінскай, расійскай, англійскай, беларускай і часам польскай мовах, і нават на роднай мове індусаў, – распавядае Юлія. – Гэта паказвае, што, дзе б мы ні былі, на якой бы мове ні размаўлялі, нас яднае Езус".

У Тбілісі таксама не вельмі шмат католікаў-беларусаў, зазначае наша суразмоўца. Але там працуе сястра-салезіянка з Беларусі – Вераніка. У Тбілісі ёсць магчымасць паспавядацца па-руску і па-польску, у адрозненні ад Батумі, зазначае Юлія.

"У Батумі ксёндз амаль не размаўляе па-руску і слаба паанглійску, таму бывае цяжкавата са споведдзю," – кажа верніца.

Юлія заклікае беларусаўкатолікаў, якія цяпер жывуць па-за межамі Радзімы, яднацца і праяўляць больш актыўнасці. "Нам трэба захаваць тую веру, якую мы атрымалі на Радзіме, быць прыкладам, не баяцца, не саромецца адкрыта вызнаваць веру на сваёй роднай мове, – упэўнена жанчына. – Актыўныя вернікі патрэбныя любой парафіі, у любой краіне. А што рабіць – заўсёды знойдзецца. У тым жа Батумі можна валанцёрыць у "Карытасе", напрыклад, бо дапамога тут вельмі патрэбная".

### Вільня: каталіцтва на беларускай мове тут пачало адраджэнне ў 1989 годзе

Беларуска Ева Граблеўская ўжо шмат гадоў жыве ў Вільні. Жанчына бачыла адраджэнне каталіцтва на беларускай мове тут яшчэ ў 1989 годзе. Тады літоўскае духавенства было гатовае аддаць беларусам касцёл, у якім сёння месціцца Санктуарый Божай Міласэрнасці. Але не было святара, які б мог тады ўзначаліць беларускае душпастырства, і на шмат гадоў гэтая справа спынілася.

"Калі нарэшце ў нас з'явіўся ксёндз, ён не ўзяў той касцёл, які нам прапаноўвалі, а стаў змагацца за касцёл Святога Барталамея ў Зарэччы, – распавядае спадарыня Ева. – Пасля быў вялікі перапынак, калі службаў не было. А восем гадоў таму касцёл Святога Барталамея адрадзілі, і там пачаліся беларускамоўныя службы. Віленскія біскупы зразумелі нашыя патрэбы, гэты касцёл цалкам аддалі беларусам, і там цяпер набажэнствы ідуць толькі на беларускай мове".

З 2020 года беларуская парафія ў Вільні папоўнілася людзьмі, якія па розных прычынах сюды пераехалі з Беларусі, кажа спадарыня Ева. Вернікамі заапекаваўся ордэн братоў-капуцынаў.

"Айцец Арыюш Малыска – наш духоўны пастыр. Ён паляк, але шмат гадоў жыў у Беларусі, вельмі добра размаўляе па-беларуску", – зазначае наша суразмоўца.

### "Малітва на роднай мове вельмі шмат значыць для кожнага хрысціяніна"

Беларуская парафія у Вільні жыве актыўным духоўным жыццём: тут бяруць шлюбы, хрысцяць дзяцей. Сёстры беларускі праводзяць катэхэзы для маленькіх вернікаў. Цягам апошніх васьмі гадоў штогод ёсць група дзяцей, якія прыступаюць да Першай Камуніі. У асноўным гэта вучні беларускай гімназіі ім. Францыска Скарыны, кажа спадарыня Ева.

Імшы ў касцёле Святога Барталамея праходзяць амаль штодня. З аўторка па суботу – а 18-й гадзіне, у нядзелю – дзве Імшы: а 10-й і а 12-й гадзіне.

Паводле спадарыні Евы, беларуская парафія ў Вільні з'яўляецца інтэгральнай часткай Каталіцкага Касцёла ў Літве.

"Стала добрай традыцыяй, што ў Свята Маці Божай Вастрабрамскай праводзіцца Імша ў касцёле Святой Тэрэзы. Раней Імша была ў капліцы, але потым вернікаў стала так шмат, што яны перасталі там змяшчацца, – распавядае жанчына. – Таксама стала традыцыяй на ўспамін Святога Казіміра праводзіць у капліцы Святога Казіміра ў катэдры набажэнствы на розных мовах, у тым ліку і на беларускай. У гэтым годзе ўпершыню ў Санктуарыі Божай Міласэрнасці будзе служба па-беларуску. Калі бываюць вялікія ўрачыстасці, заўсёды запрашаюць беларусаў, каб прагучаў і наш голас на малітве вернікаў на сумесных Імшах".

Ева Граблеўская падкрэслівае, што беларускае каталіцтва паўстала ў Вільні не на пустым месцы, а на багатай беларускай спадчыне яшчэ даваенных часоў XX стагоддзя.

"Тады тут віравала беларускае каталіцкае жыццё: выдаваліся газеты, малітоўнікі, спеўнікі, у касцёле Святога Міхала праводзіліся Імшы па-беларуску, адтуль хадзілі шматлюдныя пілігрымкі на Кальварыю, што добра бачна на старых здымках, – згадвае спадарыня Ева. – Пры гэтым беларусы, якія тут нарадзіліся, – шматмоўныя, яны могуць пайсці і на літоўскую, і на польскую Імшы. Але малітва на роднай мове вельмі шмат значыць для кожнага хрысціяніна, і мы ўдзячныя літоўскаму духавенству, што маем такую магчымасць".


Касцёл Сватога Барталамея ў Вільні

### Гданьск: Імшы праводзяць ксяндзы, якія раней служылі ў Беларусі

У Польшчы беларускае каталіцкае душпастырства развіваецца ў васьмі гарадах. Павел, які жыве ў Гданьску, распавёў, як гэта выглядае ў іх.

"У Гданьску беларуская каталіцкая супольнасць паўстала ў 2019 годзе. Імшы на беларускай мове тады праводзіліся раз на месяц. Цяпер праходзяць кожную нядзелю, звычайна ў рэктаральным касцёле Святога Юзафа. Калі ён заняты, збіраемся ў каралеўскай капліцы Мар'яцкай базілікі, – кажа беларус. – Ведаю, што ў Варшаве, Лодзі ёсць ксяндзы-беларусы, у нас жа Імшы праводзяць тыя, якія некалі служылі ў Беларусі: ксёндз Андрэй Бульчак і ксёндз Пётр Врубель".

Акрамя непасрэдна Імшаў, у каталіцкай супольнасці беларусаў Гданьска праводзяцца рэкалекцыі, дні засяроджанасці, прайшло некалькі канферэнцыяў для дзяцей і дарослых, сустрэчы міністрантаў, "Канікулы з Богам", праца Рада супольнасці, якая штомесяц збіраецца. На ўрачыстасці, паводле нашага суразмоўцы, прыходзіць каля ста чалавек, у звычайныя нядзелі вернікаў крыху менш. У асноўным беларускія вернікі ў Гданьску – гэта сямейныя людзі, прыходзяць з дзецьмі, зазначае Павел.

Цяпер беларусы думаюць над катэхезамі для дзяцей: дзе, калі і хто іх будзе праводзіць. "Але ў Польшчы ўрокі рэлігіі ёсць у школах, таму нават калі ўласна катэхезы няма, гэта не такая вострая праблема, як у Беларусі, бо базавы ўзровень дзецям усё роўна даецца", – распавядае Павел.

### Католікі-беларусы ў Польшчы становяцца групай, якую чуваць

Самая вялікая праблема для беларускага душпастырства ў Польшчы, паводле нашага суразмоўцы, – недахоп святароў. "Тыя, што ёсць, моцна занятыя. У нас Імша ў нядзелю праходзіць а 14.30, бо гэты час – "фортка" ў ксяндза паміж Імшамі для палякаў. Атрымліваецца, што касцёл для Імшы ў Польшчы знайсці не праблема, цяжэй са святарамі", – кажа Павел.

А самае каштоўнае ў беларускім душпастырстве, на думку маладзёна, – самаарганізацыя. "Тут усё і пачало так актыўна развівацца толькі дзякуючы таму, што людзі самі захацелі: сталі аб'ядноўвацца, шукаць памяшканні, святароў, ліставацца з Курыяй, біскупамі. Цяпер наша супольнасць цесна камунікуе і з Касцёлам у Беларусі, і з Касцёлам у Польшчы", – зазначае Павел.

За апошнія два гады, на думку верніка, дзейнасць беларускай каталіцкай супольнасці ў Польшчы стала больш сістэмнай, яна вырасла колькасна. Католікі-беларусы ў Польшчы становяцца групай, якую чуваць.

*Марыя Карловіч*


Касцёл у Батумі


Заняткі з дзецьмі ў парафіі ў Гданьску

## На май прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**1 мая** – **імяніны** адзначае **кс. Алег Зямчонак** *(Глыбокае)*; **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначаюць: **кс. Андрэй Кулік** *(Мёры)*, **кс. Эдвард Нарадоўскі** *(Задарожжа)*, **кс. Генадзь Добрук** *(Гродзенская дыяцэзія)*, **кс. Эдуард Сінкевіч SCJ** *(Варапаева)*;

**2 мая** – **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **а. Чэслаў Курэчка MIC** *(Расія)*;

**3 мая** – **імяніны** адзначаюць **кс. Аляксандр Амяльчэня** *(Ватыкан)*, **кс. Аляксандр Баран** *(Лынтупы)*, **ксёндз пралат Аляксандр Рагіня** *(Аргенціна)*, **ксёндз канонік Аляксандр Чайкоўскі** *(Навапалацк)*, **а. Аляксандр Жарнасек MIC** *(Расія)*; **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **кс. Іван Кароткін** *(Навапалацк)*;

**8 мая** – **імяніны** адзначае **кс. Станіслаў Скрыдалевіч SAC** *(Талачын)*; **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **а. Віталій Бандаронак OFMCap** *(Докшыцы)*;

**9 мая** – **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **кс. Лешак Вітвіцкі SDS** *(Слабодка)*

**12 мая** – **дзень нараджэння** адзначае **а. Віктар Жук SJ** *(Віцебск)*; **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **кс. Станіслаў Скрыдалевіч SAC** *(Талачын)*;

**13 мая** – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Андрэй Таўрук** *(Дунілавічы)*; **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначаюць **кс. Марат Казлоўскі** *(Мосар)*, **біскуп Алег Буткевіч**, **ксёндз канонік Вячаслаў Барок**, **кс. Ян Пугачоў** *(Германавічы)*, **кс. Уладзімір Заянчкоўскі** *(Лепель)*, **а. Вальдэмар Куява OFMConv** *(Удзела)*;

**14 мая** – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Мікалай Ціхановіч** *(Глыбокае)*; **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **кс. Уладзімір Шымковіч** *(Параф'янава)*;

**15 мая** – **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначаюць **ксёндз канонік Віктар Місевіч** *(Віцебск)*, **кс. Генадзь Рэйшаль** *(Віцебск)*, **кс. Ігнат Санюта** *(Ірландыя)*, **кс. Міхал Татарэнка** *(Польшча)*;

**16 мая** – **імяніны** адзначае **кс. Андрэй Таўрук** *(Дунілавічы)*; **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **кс. Андрэй Бочар MS** *(Далёкія)*;

**18 мая** – **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **ксёндз пралат Аляксандр Рагіня** *(Аргенціна)*;

**19 мая** – **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначаюць **кс. Мікалай Ціхановіч** *(Глыбокае)*, **кс. Юрый Барок**;

**20 мая** – **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначаюць **кс. Альфрэд Пяхота MS** *(Відзы)*, **кс. Зэнон Шчонхар MS** *(Відзы)*;

**21 мая** – **імяніны** адзначае **кс. Яўгеній Шымановіч** *(Орша)*;

**22 мая** – **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначаюць **кс. Вадзім Прасяной SCJ** *(Паставы)*, **а. Браніслаў Дашкевіч OP** *(Віцебск)*, **кс. Станіслаў Мжыглуд SDS** *(Браслаў)*;

**23 мая** – **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **а. Ілля Саўчанка MIC** *(Орша)*, **кс. Яўгеній Шымановіч** *(Орша)*;

**25 мая** – **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **біскуп на пенсіі Уладзіслаў Блін**;

**26 мая** – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Эдвард Нарадоўскі** *(Задарожжа)*; **імяніны** адзначае **кс. Генадзь Рэйшаль** *(Віцебск)*; **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначаюць **кс. Уладзімір Шыдлоўскі SDS** *(Браслаў)*, **кс. Віталь Бяленік** *(Падсвілле)*;

**29 мая** – **дзень нараджэння** адзначае **ксёндз канонік Яцак Хутман** *(Камаі)*; **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **а. Яраслаў Банасяк OFMConv** *(Удзела)*;

**30 мая** – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Аляксандр Баран** *(Лынтупы)*, **імяніны** адзначае **кс. Генадзь Добрук** *(Гродзенская дыяцэзія)*; **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **а. Міхаіл Ермашкевіч OP** *(Сянно)*;

**31 мая** – **дзень нараджэння** адзначае **біскуп на пенсіі Уладзіслаў Блін**, **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначаюць **а. Анджэй Юхневіч OMI** *(Шуміліна)*, **ксёндз пралат Францішак Кісель** *(Полацк)*; **кс. Аляксей Ляшко** *(Віцебск)*.

*Падрыхтаваў*
***кс. кан. Віктар Місевіч***



# Што Езус гаварыў пра Сваю смерць і ўваскрасенне? Тэст

Хрыстос уваскрос! Сапраўды ўваскрос! Паважаныя чытачы “Каталіцкага Весніка”, у гэты час радаснага перажывання Пасхі запрашаем вас прысвяціць некалькі хвілін на праверку ведаў па Евангеллі. Сёння пытанні будуць звязаныя з тым, што Езус гаварыў Сваім вучням пра Сваю смерць і ўваскрасенне.

**1 Дзе Езус упершыню гаворыць: “Яшчэ не прыйшла гадзіна мая”? (Ян 2:4)**



**А.** падчас свята ў Кане
**Б.** падчас гутаркі з Нікадэмам
**В.** пасля вызнання Пятром, што Ён – Месія

**2 Пасля ўрачыстага ўезду ў Ерузалем Езус прадказвае Сваё ўзвышэнне. Чым павінна скончыцца гэтая фраза: “Цяпер усхвалявана душа Мая; і што Мне сказаць? Ойча, захавай Мяне ад гэтай гадзіны. Але ж дзеля гэтай гадзіны Я і прыйшоў. Ойча, ... “? (Ян. 12:27-28)**



**А.** няхай будзе воля Твая
**Б.** услаў Імя Сваё
**В.** у рукі Твае аддаю Я дух Мой

**3 Які вобраз са старога запавету выкарыстоўвае Езус у размове з Нікадэмам, калі гаворыць пра Сына Чалавечага?**



**А.** зерне, кінутае ў зямлю
**Б.** прынашэнне ягняці ў ахвяру
**В.** шэст з узнятым змеем

**4 Пасля якога моманту, паводле сінаптычных Евангеляў, Езус пачаў адкрыта гаварыць з апосталамі пра Сваю смерць і ўваскрасенне?**



**А.** пасля нагорнай пропаведзі
**Б.** пасля вызнання Пятра
**В.** пасля перамянення Пана

**5 Колькі разоў, паводле сінаптычных Евангеляў, Езус адкрыта прадказваў апосталам Сваю смерць і ўваскрасенне?**



**А.** 3
**Б.** 4
**В.** 5

**6 Як павінен скончыцца выраз: “Я – хлеб жывы, які сышоў з неба. Калі хто будзе спажываць гэты хлеб, будзе жыць вечна. А хлеб, які Я дам - ....”?**



**А.** гэта Цела Маё для жыцця свету
**Б.** гэта слова Божае, каб больш не адчувалі голаду
**В.** гэта закон Божы, каб жылі вы

**7 Што адказаў Езус Юду, калі той пашкадаваў алею, якім Марыя выцерла ногі Езусу?**



**А.** пакінь яе, каб яна захавала гэта на дзень майго пахавання
**Б.** пакінь яе, бо не пра тое ты думаеш, што сапраўды важна
**В.** пакінь яе, не забараняй людзям рабіць дабро

**8 Калі вучні задалі Езусу пытанне пра прыйсце Ілλі?**



**А.** пасля перамянення Пана
**Б.** пасля смерці Яна Хрысціцеля
**В.** пасля ачышчэння святыні

**9 Чым заканчваецца прамова Езуса пра авечак і добрага пастыра ў Евангеллі ад Яна?**



**А.** словамі пра ваўкоў у авечым абліччы
**Б.** словамі пра добраахвотную ахвяру Езуса
**В.** словамі пра страчаную авечку

**10 Які вобраз прыводзіць Езус, каб патлумачыць вучням Яна, чаму Яго вучні не пасцяць?**



**А.** гаворыць пра жаніха на вяселлі
**Б.** успамінае пра тое, як Давід еў ахвярныя хлябы
**В.** гаворыць пра закваску

*Падрыхтавала*
***Лаліта Арлоўская***

**Правільныя адказы на віктарыну на стар. 16**





# У Ізраілі адрадзілі пальмы, якія раслі ў часы Езуса

**Як доўга можна захоўваць насенне? Большасць насення захоўвае сваю здольнасць да прарастання ўсяго некалькі гадоў. Аднак ізраільскім біёлагам удалося вярнуць да жыцця від фінікавай пальмы, якая расла ў часы Езуса, праз амаль дзве тысячы гадоў!**

Іўдзейскі фінік (Phoenix dactylifera) – вельмі спецыфічны від. Гэтыя пальмы былі шырока вядомыя і высока шанаваліся ў старажытнасці. Яны з'яўляліся адным з важных кампанентаў ізраільскай эканомікі. Пальмы высока шанаваліся, у прыватнасці, дзякуючы сваім пажыўным і лячэбным якасцям. Кожны год як асаблівы падарунак іх атрымліваў імператар у Рыме. Яны былі прызнаныя эфектыўным сродкам у барацьбе з дэпрэсіяй. Акрамя вінаграду і інжыру, сама фінікавая пальма была важным сімвалам зямлі Ізраіля. На жаль, гэтыя дрэвы загінулі амаль дзве тысячы гадоў таму.

Галоўнай прычынай гэтага стала эканамічнае спусташэнне Юдэі праз задушэнне яўрэйскіх паўстанняў супраць рымлян, якія скончыліся неверагодным паразай яўрэяў.

Аднак больш за 55 гадоў таму падчас археалагічных раскопак, праведзеных на тэрыторыі былой крэпасці Масада, была выяўленая незвычайная знаходка. Многія будынкі на тэрыторыі крэпасці згарэлі ў выніку пажару, учыненага рымлянамі, але ацалеў адзін са складоў харчавання, а разам з ім – і насенне фінікаў.

Важна адзначыць, што раён, на якім знаходзіцца крэпасць Масада, мае выключна пустынны характар, ён сухі і спрыяльны для захоўвання прадуктаў харчавання.

Амаль сорак гадоў знойдзенае насенне знаходзілася ў сховішчы музея. У рэшце рэшт каля пятнаццаці гадоў таму навукоўцы з ізраільскага медыцынскага цэнтра Хадаса пад кіраўніцтвам доктара Сары Салон вырашылі правесці эксперымент: ці ўдасца вярнуць насенне да жыцця? Надзеі былі невялікія, бо дзве тысячы гадоў – гэта вельмі доўгі тэрмін, нават пры такіх спрыяльных кліматычных умовах.

Пра тое, каб частку захаванага насення аддаць для даследаванняў, музейшчыкі нават не хацелі слухаць. Аднак доктару Салон усё ж удалося пераканаць кіраўніцтва музея, і яна атрымала тое, што ёй было неабходна для эксперыменту. Атрыманае насенне яна перадала доктару Элейн Салавей, вопытнаму навуковаму супрацоўніку сельскагаспадарчага цэнтра Арава, як чалавеку, які мае найвышэйшую кваліфікацыю для вырошчвання раслін з асаблівымі патрабаваннямі. Доктар Салавей забяспечыла насенню аптымальную гідратацыю і тэмпературу, пастаянна назіраючы за тым, што з імі адбываецца. Нечакана праз некалькі тыдняў адно зярнятка дало расток, а потым і астатнія.



Аднак узнікла праблема: фінікавая пальма дае альбо мужчынскія, альбо жаночыя кветкі, і ніколі і тое, і іншае на адным дрэве. Між тым усё атрыманае насенне было мужчынскім. На шчасце, з музея перадалі яшчэ матэрыял. З трыццаці зярнятак прарасло шэсць, і два з іх былі жаночымі.

Калі пальмы выраслі, іх удалося апыліць. Гэта адкрыла шлях для атрымання большай колькасці пладоў, што дало шанец на паступовае аднаўленне юдэйскай пальмы як сельскагаспадарчага віду.

Канешне, да фінікавых плантацый дарога яшчэ далёкая, але сам від фінікавай пальмы ўжо не лічыцца вымерлым і, хутчэй за ўсё, у найбліжэйшы дзясятак гадоў можа зноў стаць традыцыйнай сельскагаспадарчай раслінай.

*opoka.org.pl*
*Пераклад **Марыны Ткач***

# У Мёрах адбылася сустрэча ўдзельнікаў Апостальства дапамогі душам чыстцовым

**18 сакавіка ў парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Язафата Кунцэвіча ў Мёрах прайшла чарговая сустрэча ўдзельнікаў Апостальства дапамогі душам чыстцовым. У спатканні прынялі ўдзел кс. Славамір Самковіч – куратар груп Апостальства Віцебскай дыяцэзіі, і спадарыня Аліна Новікава – галоўная аніматарка Апостальства дапамогі душам чыстцовым у Беларусі і галоўны рэдактар выдавецтва "Про Хрысто".**

Сустрэча пад агульнай назвай "Чысцец – праяўленне Божай міласэрнасці" распачалася супольнай ружанцовай малітвай за памерлых, якія церпяць у чысцы.

Затым а 10-ай гадзіне адбылася святая Імша, якую цэлебраваў кс. Славамір Самковіч. У сваёй гаміліі святар звярнуў увагу на абрад пахавання. Святар заўважыў, што ў нашае рэлігійнае жыццё цесна ўпляліся мясцовыя традыцыі, якія часам маюць язычніцкія карані і перашкаджаюць правільнаму разуменню пахавання па-каталіцку. Для памерлага не мае значэнне колькі кветак мы прынясём – пяць ці шэсць, або што пакладзём яму ў труну... Для душы, якая адышла ў вечнасць, неабходная малітва, найлепш – святая Імша. Вельмі важна, каб родныя і блізкія прынялі святую Камунію ў інтэнцыі спачылага.

**Святар падкрэсліў, што будучае чалавека ў вечнасці залежыць ад таго, як ён жыў на зямлі, асабліва які быў стан яго душы ў момант смерці.**

Таму неабходна імкнуцца жыць так, каб мы ў любы момант былі гатовыя адысці ў вечнасць.



Пасля святой Імшы адбылася канферэнцыя, якую правяла спадарыня Аліна Новікава. Працягваючы тэму гаміліі, яна звярнула ўвагу на тое, што такое чысцец і як важна маліцца за памерлых. Яна заўважыла, што наша заданне – імкнуцца да святасці на працягу зямнога жыцця. На гэтым шляху нам часта перашкаджаюць раны і крыўды, нанесеныя іншымі людзьмі. Гэтыя крыўды часам становяцца стрэмкамі, якія ўвесь час нагадваюць пра сябе. Важна вучыцца прабачаць ад усяго сэрца, каб ачысціць сваю душу і падтрымаць тых, хто прыбывае ў чысцы. Вельмі моцна духоўна нашкодзіць чалавеку могуць і свядома нявызнаныя цяжкія грахі, якія былі ўчыненыя многа гадоў назад, таму неабходна адказна рыхтавацца да сакраманту пакуты і шчыра спавядацца.

"Мы часам не ўсведамляем дабротаў, якія дае нам Пан Бог, – сакраманты, адпусты. Вельмі важна імі карыстацца дзеля збаўлення сваёй душы і душаў чыстцовых", – падкрэсліла Аліна Новікава.

Пасля канферэнцыі спадарыня Аліна як галоўны рэдактар выдавецтва "Про Хрысто" пазнаёміла прысутных з рэлігійнай літаратурай, каторую ахвотныя маглі набыць напрыканцы сустрэчы. Частка літаратуры была перададзеная ў парафіяльную краму.

Завяршылася сустрэча дыялогам у катэхетычнай зале, падчас якой актыўныя ўдзельнікі Апостальства абмеркавалі з галоўнай аніматаркай важныя для іх пытанні.

***Жанна Закрэўская,***
*kascelmery.by*



# Папа Францішак і арцыбіскуп на пенсіі Тадэвуш Кандрусевіч даслалі віншаванні стагадовай юбілярцы з Глыбоччыны

**Арыгінальную ідэю прыдумаў унук Кірыл, які напісаў лісты іерархам і расказаў пра сваю любімую бабулю Уладзіславу Булах, піша "Веснік Глыбоччыны". У адказ прыйшлі віншавальныя лісты з Ватыкана за подпісам Папы Рымскага і ад арцыбіскупа на пенсіі Тадэвуша Кандрусевіча.**

– Дарагая спадарыня Уладзіслава! Ад імя Папы Францішка прыміце сардэчныя віншаванні з нагоды 100-годдзя! Няхай добры Бог умацуе, блаславіць Вас і адорыць Сваёй Ласкай, – напісана ў віншаванні з Ватыкана.

– Жыццё пражыць – не поле перайсці, – гаворыць прымаўка. Нягледзячы на ўсе складанасці лёсу, Вы засталіся вернай хрысціянскаму пакліканню. Бог адарыў Вас ласкай доўгага жыцця, якое прынесла свой плён і прыносіць яго далей, перадусім праз хрысціянскае сведчанне. У гэты ўрачысты дзень ад усяго сэрца жадаю Вам наступных гадоў жыцця, напоўненых Божай ласкай, патрэбнымі дарамі, здароўем, спакоем, непахіснай верай і надзеяй, а Маці Божая няхай ахіне Вас сваёй апекай, – напісаў Тадэвуш Кандрусевіч.

На ўрачыстасці, прысвечанай юбілейнай даце, прысутнічаў і ксёндз Эдвард Нарадоўскі, пробашч парафіі Найсвяцейшай Панны Марыі Ласкавай з Задарожжа, які падарыў Уладзіславе Мікалаеўне абраз Маці Божай Нястомнай Дапамогі і пажадаў жанчыне Божага заступніцтва.

# Мець высокую *ацэнку* і добрую *адзнаку*

**Сярод слоў, дакладнасць ужывання якіх часта парушаецца, асаблівую ўвагу прыцягваюць назоўнікі *ацэнка* і *адзнака*. Яны дастаткова частотныя ў штодзённай камунікацыі, іх пастаянна выкарыстоўваюць і вучні, і іх бацькі, і, безумоўна, настаўнікі. Пры гэтым нярэдка згаданыя лексічныя адзінкі ўжываюцца памылкова, што можа ствараць пэўны моўны дыскамфорт. Якраз пра падобную сітуацыю піша чытачка "Каталіцкага весніка" Ганна С. з Вілейшчыны.**

■ **Юрась Бабіч**, *кандыдат філалагічных навук*

Спадарыня Ганна не называе непасрэдна сваю прафесію, але можна здагадацца, што род яе дзейнасці звязаны ці са сферай адукацыі, ці з галіной культуры. *"Выступленне заслугоўвае самай высокай адзнакі!* Або *З такімі ацэнкамі няма чаго і марыць пра паступленне ва ўніверсітэт!*, – прыводзіць сп-ня Ганна прыклады недакладных, на яе погляд, словаўжыванняў. І прапануе прысвяціць адзін з выпускаў нашай моўнай старонкі аналізу асаблівасцяў выкарыстання менавіта названых двух назоўнікаў. Таму сёння мы гэта і робім.

Назоўнік **ацэнка** найчасцей выкарыстоўваецца ў значэнні "думкі, меркавання пра якасць, годнасць каго-небудзь ці чаго-небудзь" (*Выступленню нашай спявачкі журы дало высокую* ***ацэнку***; *Вынікі працы калектыву па працягу года патрабуюць належнай, аб'ектыўнай* ***ацэнкі***). Мы бачым, што слова **ацэнка** непасрэдна матывуецца дзеясловам **ацэньваць** (**ацаніць**): даць ацэнку каму-небудзь, чаму-небудзь, выказаць сваю думку пра што-небудзь, а таксама вызначыць ролю, характар каго-небудзь ці чаго-небудзь. Пару кантэкстаў з мастацкай літаратуры з дзеясловам: *Сутак можа мець апраўданне, што для таго ён, каб пасля яго больш* ***ацаніць*** *радасць* (Кузьма Чорны); *Свет не бачыў падобнай мастацкай рукі: хай* ***ацэняць*** *цудоўны кілім мастакі* (Уладзімір Дубоўка). Тут **ацаніць** абазначае "даць ацэнку", гэта значыць, аб'ектыўна ўзважыць вартасці, дасягненні, заслугі.

Назоўнік **адзнака** ў нашай мове мае больш разгалінаваную сістэму значэнняў. Гэта, у прыватнасці, "метка, знак, пастаўленыя з мэтай абазначыць што-небудзь (***адзнака*** *на дрэве*); знак, які застаўся пасля чаго-небудзь на якой-небудзь паверхні (*Абапал дарог віднеліся* ***адзнакі*** *нядаўніх баёў – чорныя варонкі, скарожаныя машыны.* Іван Мележ); знак, прыкмета, акалічнасць, паводле якіх можна пазнаць, вызначыць што-небудзь (*Прывычка гаварыць сам з сабою у некаторых ёсць* ***адзнака*** *блізкай ці сапраўднай старасці.* Кузьма Чорны); асаблівасць, рыса, якімі асоба ці прадмет адрозніваюцца ад іншых асобаў ці прадметаў (*Кандрат Крапіва дбайна збярог традыцыйныя ўласцівасці, традыцыйныя* ***адзнакі*** *баечнага жанру.* Янка Казека). І нарэшце найбольш істотнае для нашага артыкула значэнне: "агульнапрынятае абазначэнне ступені ведаў і паводзін навучэнцаў" (*У школе па ўсіх прадметах у хлопца былі толькі добрыя* ***адзнакі***; *Набліжаліся канікулы, настаўнікі ўжо паставілі* ***адзнакі*** *за чвэрць.* Віктар Барысевіч). Можна сказаць, што ***адзнака*** – гэта лічбавае выражэнне ***ацэнкі*** ведаў, калі мы гаворым пра школьнікаў ці студэнтаў. Але прыгадаем таксама, што ёсць у мове і спалучэнне *дыплом* ***з адзнакай***.

Такім чынам, словы **ацэнка** і **адзнака** ўсё ж адрозніваюцца паводле значэння і свайго сінтагматычнага, ці інакш спалучальнага патэнцыялу. Вяртаючыся да прыведзеных напачатку кантэкстаў, скажам, што правільна пабеларуску было б *"Выступленне заслугоўвае самай высокай* ***ацэнкі***! І *З такімі* ***адзнакамі*** *няма чаго і марыць пра паступленне ва ўніверсітэт!*

Спадзяёмся, што прапанаваны матэрыял будзе карысны для ўсіх, хто цікавіцца беларускай мовай і неабыякавы да культуры роднага слова.

## На Данбасе вернікі, застаўшыся без святара, самі адзначылі парафіяльнае свята

**Ва ўрачыстасць абранніка Найсвяцейшай Панны Марыі парафія святога Юзафа ў Макееўцы таксама адзначыла сваё патранальнае свята, паведамляецца на старонцы хрыстусоўцаў на Facebook. Макееўка – буйны горад (340 тыс. насельніцтва) на Данбасе, суседні з Данецкам.**

Парафія была заснавана трыццаць гадоў таму ксяндзамі-хрыстусоўцамі і на працягу доўгага часу яны вялі ў ёй душпастырскую працу. З 2014 года парафію абслугоўваў адзіны рымска-каталіцкі святар Мікалай Пілецкі TChr, які застаўся на Данбасе. На жаль, з моманту пачатку ўзброенага канфлікту 24 лютага 2022 года кс. Мікалай не можа вярнуцца ў Данецк. Таму адпуст ладзілі самі свецкія вернікі. Сабраўшыся на супольную малітву, парафіяне правялі Літургію Божага слова і падрыхтавалі святочны стол.





# Как спастись от алкоголизма?

**"Анонимные алкоголики" – это содружество, объединяющее мужчин и женщин, которые делятся своим опытом, силами и надеждами с целью помочь себе и другим избавиться от алкоголизма.**



• Единственное условие для членства – это желание бросить пить.

• Мы не платим ни вступительных, ни членских взносов.

• Мы сами себя содержим благодаря нашим добровольным пожертвованиям.

• Сообщество не связано с какой-либо религиозной организацией, политической группировкой или партией; не вступает в полемику по каким бы то ни было вопросам, не поддерживает и не выступает против чьих-либо интересов.

• Наша основная цель: оставаться трезвыми и помочь другим алкоголикам обрести трезвость.

У нас есть программа выздоровления от алкоголизма **(12 шагов)**, которая изложена в книге "Анонимные алкоголики". Она основывается на духовных принципах, которые являются ориентацией на общечеловеческие ценности: любовь к людям, стремление к взаимопомощи, добру и самосовершенствованию.

**12 Шагов АА** – это образ жизни, позволяющий страдающему алкоголику освободиться от пристрастия к алкоголю и стать счастливым и полезным человеком.

Для прохождения программы мы применяем принцип наставничества. Наставничество – это работа по передаче опыта прохождения программы **(12 шагов)** от одного алкоголика другому, а также постоянная ответственность за оказание помощи новичку, чтобы он мог научиться жить без алкоголя.

**Круглосуточная горячая линия АА:**
+375 (29) 276-83-17
+375 (44) 780-73-29

**Где нас найти?**

**г. Витебск**
Группа "Возрождение"
Ул. Гагарина, 46а, костел святого Антония
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.30, воскресенье (открытое собрание) – 14.30.
+375 (33) 696-45-88

**г. Орша**
Группа "Выход есть"
ул. Советская, 6, костел.
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.00
+375 (29) 590-55-86

**г. Новополоцк**
Группа "Лотос"
ул. Я. Коласа, 52, костел.
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.00-20.00, воскресенье – 15.00-17.00. Последнее воскресенье месяца – открытое собрание совместно с группой Ал-Анон.
+375 (33) 683-12-76

**г. Браслав**
Группа "Истина"
Ул. Советская, 2.
Расписание собраний: воскресенье – 10.00
+375 (33) 359-97-02

**г. Лепель**
Группа "У озера"
Ул. Ленинская, 12, костел.
Расписание собраний: вторник, четверг – 18.00, суббота – 17.00
+375(29)729-63-70
+375(29)704-72-60

**г. Глубокое**
Группа "Точка отсчёта"
Ул. Советская, 4.
Расписание собраний: воскресенье – 15.00
+375 (29) 519-03-21

**г. Поставы**
Группа "Радость"
Ул. Набережная, 8.
Расписание собраний: среда и воскресенье – 18.00
+375 (29) 737-47-64

**г.п. Шумилино**
Группа "Свет"
ул. Светлосельская 2
суббота 15.00
тел. +375 29 8173632
эл. почта: mifik29@gmail.com

**Ал-Анон** – это содружество родственников и друзей алкоголиков, которые делятся друг с другом своим опытом, силой и надеждой, чтобы решать наши общие проблемы. Мы верим, что алкоголизм – это семейная болезнь, и что перемена отношения к ней способствует выздоровлению. Группы Ал-Анон не связаны с какой-либо религиозной организацией, политической группировкой или сообществом, не участвуют в полемике по каким бы то ни было вопросам, не касающимся нашей деятельности. У нас одна цель – помочь семьям алкоголиков.

**Инфолинии сообщества Ал-Анон Беларуси:**
+375 (29) 550-54-24 инфолиния
+375 (44) 515-29-56 офис РОО
www.alanon.by – сайт сообщества Ал-Анон Беларуси.

***Пахвалёны Езус Хрыстус!***



*Паважаны **кс. Віктар Місевіч!** З нагоды Дня святара і велікодных святаў ад усяго сэрца жадаем Вам шчодрых ласкаў і благаслаўлення ад уваскрослага Хрыста, моцы Духа Святога, апекі Найсвяцейшай Маці, а таксама прыгожага плёну на ніве Пана! Няхай Усемагутны дапамагае ў ажыццяўленні планаў, а Марыя няспынна моліцца за Вас перад Божым тронам, ахінае апекай і прытуляе да Свайго сэрца! Няхай святло Хрыста будзе надзейным правадніком на дарозе жыцця!*

*Радаснага Аллелюя!*

***З малітвай, сем'і Місевіч і Вяршэль***

***Пахвалёны Езус Хрыстус!***

*Дасылаю словы шчырага віншавання паважанаму **кс. Віктару Місевічу і паважанай рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік"** са святам Уваскрасення Пана. Ваша газета вельмі цікавая і патрэбная.*

*Жадаю ўсім веснавога святочнага настрою, здароўя, падтрымкі Пана Бога. Няхай Збаўца адорыць Вас усімі патрэбнымі ласкамі! Няхай Божы спакой напаўняе Вашыя сэрцы, дамы, нашу краіну і ўвесь свет!*

*Хрыстос уваскрос! Сапраўды ўваскрос! Са святам!*

***З павагай, Іосіф Гаеўскі, в. Прудцы, Шчучынскі р-н***

***Пахвалёны Езус Хрыстус!***



*Дарагі і паважаны наш **айцец Тадэвуш Кавальскі!** Віншуем Вас, Вашых родных, а таксама ўсіх святароў, братоў і сясцёр законных з касцёла Святой Тройцы ў Докшыцах з самым прыгожым і светлым вясновым святам Уваскрасення Пана і з Днём Святарства!*

*Жадаем усяго найлепшага, вытрымкі, багатага плёну ў святарскай працы!*

*Вялікі дзякуй Вам, дарагі ойча, за цяжкую працу ў нашай парафіі, асабліва ў складаны, няпросты цяперашні час. Мы вельмі ўдзячныя Пану Богу, што нам пашанцавала мець такога цудоўнага святара. Будзем маліць Езуса Уваскрослага, каб Ён узяў Вас пад Сваю святую апеку, ніколі не пакідаў і быў Галоўным Абаронцам на Вашым жыццёвым шляху! А таксама жадаем, каб Вы доўга жылі, мелі моцнае здароўе, каб заўсёды над Вамі ззяла яснае сонейка і было чыстае блакітнае неба! Міру Вам!*

***З любоўю, малітвамі і павагай, вернікі касцёла Хрыста Валадара ў Бягомлі***

***Хвала Хрысту!***



*Шаноўны **ксёндз Юрый Жаўнаровіч!** Шчыра віншуем Вас з з Днём Святарства (6 красавіка) і імянінамі (23 красавіка)! Жадаем Вам добрага здароўя, душэўнага спакою, плёну ў працы, моцнай вытрымкі на шляху служэння Богу і людзям! Дзякуем Вам за шчырую малітву, за прыклад пабожнасці, за клопат пра людзей і за тое, што Вы з намі і для нас!*

***З павагай і ўдзячнасцю, парафіяне касцёла Узвышэння Святога Крыжа (аг. Ахрэмаўцы, Браслаўскі р-н)***

***Хвала Хрысту!***



*Сардэчна віншуем **ксяндза Яна Пугачова** са светлым святам Уваскрасення Пана! Жадаем шчырай Велікоднай радасці, Божага благаслаўлення, мудрасці і святога запалу, здароўя, моцнай вытрымкі на шляху служэння Богу і людзям!*

*Дзякуем нашаму паважанаму ксяндзу Яну за шчырую малітву, за прыклад пабожнасці, за клопат пра людзей і пра нашу святыню!*

***З павагай, вернікі парафіі Перамянення Пана (аг. Германавічы, Шаркаўшчынскі раён)***

***Хвала Хрысту!***

*З нагоды Дня Святарства і свята Уваскрасення Пана віншуем нашага паважанага **ксяндза Яна Пугачова.***

*Складаем самыя сардэчныя пажаданні, каб у гэты светлы дзень Змёртвыхпаўсталы Хрыстус напоўніў Ваша сэрца і сэрцы Вашых блізкіх сваім спакоем, ласкамі і радасцю! Няхай Бог Вас благаслаўляе, а Маці Марыя Каралева неба і зямлі атуляе Вас мацярынскай любоўю! Дабра Вам, моцнага здароўя, даўгалецця, аптымізму, духоўных і фізічных сіл для далейшага служэння Пану Богу і людзям!*

*Уся наша парафія і "Маргарытка" моліцца за Вас.*

***З удзячнасцю і любоўю, вернікі з капліцы Святога Мікалая ў в. Сталіца***

***Пахвалёны Езус Хрыстус!***

*Шаноўны **біскуп Алег Буткевіч!** Паважаныя **ксёндз Мікалай Ціхановіч, ксёндз Алег Зямчонак, ксёндз Эдвард Ахрамовіч і ўсе святары Віцебскай дыяцэзіі!***

*Прыміце шчырыя віншаванні з нагоды Дня Святарства! Няхай Пан Бог адорыць усіх Вас пастырскай мудрасцю, адвагай, цярплівасцю і пакорай! Божай дапамогі і благаслаўлення ва ўсіх нялёгкіх справах і пачынаннях, бязмежнага даверу да Божага Провіду!*

***З малітвай, вернікі парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім***

***Пахвалёны Езус Хрыстус!***



*11 красавіка адзначае Дзень нараджэння наш былы пробашч **ксёндз Валеры Орсік.***

*Дарагі ойча Валеры!*

*Усе нашы вернікі вельмі ўдзячныя Айцу Нябеснаму, што Вы працавалі ў нашай парафіі, за Ваша чулае сэрца, за дабрыню, за клопат пра нас і касцёл, за ратаванне нашых душаў ад граху, за прыклад любові да Бога і людзей, за шчырае служэнне, за навучанне Божаму слову.*

*Няхай Пан Бог благаслаўляе Вас, пасылае з нябёсаў ласкавае лагоднае сонейка, каб заўсёды быў вясновы настрой, а ўсмешка часцей гасціла на Вашым твары! Жадаем моцнага здароўя і даўгалецця Вам і Вашым родным, душэўнага спакою і Божай ласкі! Няхай Пан Езус заўсёды будзе Вашым сябрам, дапамагае ў святарскіх справах і асабістым жыцці, вядзе шляхам узрастання ў веры і мудрасці! Надзейных Вам сяброў, шчырых вернікаў і добразычлівых людзей побач!*

*Дзякуем Вашай маме Анастасіі за выхаванне сына-святара.*

***З малітвай, вялікай павагай і ўдзячнасцю, парафіяне касцёла Святога Айца Піа ў Лёзне***

***Хвала Хрысту!***



*Паважаны **ксёндз Віталь Бяленік!** У гэты светлы дзень прыміце шчырыя віншаванні з нагоды імянінаў! З глыбокай павагай мы ставімся да Вашага клопату пра нашу парафію і вернікаў. Жадаем Вам, ойча, міру, здароўя і супакою! Жадаем заўжды быць прыкладам праведнасці і міласэрнасці для людзей! Няхай добры Бог Вас благаслаўляе, апека Маці Божай ніколі не пакідае Вас, а Анёл-ахоўнік надзейна сцеражэ Ваш жыццёвы шлях! Няхай усе малітвы пачуе Пан Бог, няхай здзяйсняюцца Вашыя мары і планы! Вы для нас – прыклад моцнай веры!*

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі парафіі Найсвяцейшага Сэрца Езуса з Падсвілля***

***Пахвалёны Езус Хрыстус!***

*Шаноўны **ксёндз Эдуард Сінкевіч!** Шчыра віншуем Вас з Днём нараджэння (4 красавіка) і надыходам свята Уваскрасення Хрыста!*

*Няхай добры Бог, Якога Вы штодзённа трымаеце ў сваіх святарскіх руках, выслухоўвае Вашы малітвы, накіроўвае ў складаных сітуацыях, узмацняе ў выпрабаваннях, благаслаўляе Вас і адорвае сваімі ласкамі, здароўем, супакоем, мудрасцю і стойкасцю ў душпастырскай працы, напаўняе кожны дзень Вашага жыцця любоўю і дабрынёй! Жадаем апекі Найсвяцейшай Маці, шчодрых дароў Духа Святога, Анёла-ахоўніка!*

*Дзякуем за шчырую малітву, за абвяшчэнне Божага слова, за дабрыню, усмешку і цярплівасць!*

***З павагай і ўдзячнасцю, парафіяне касцёла святога Міхала Арханёла ў г.п. Варапаева***

Спыніце войны на зямлі,
На нашай сонечнай планеце!
Каб мірна жыць мы ўсе маглі,
Не гінулі бязвінна дзеці.

Нас Бог стварыў не для вайны,
І не для жудасных напасцяў.
Каб дочкі нашы і сыны
Жылі ў радасці і шчасці.

Нас Бог стварыў не для таго,
Каб кроў і рэкі слёз ліліся.
Ізноў распялі мы Яго…
Народ, апомніся, спыніся!

Спыніце войны на зямлі,
Спыніце голад і галечу!
Каб звацца нам яшчэ людзьмі,
Не страціць годнасць, чалавечнасць…

Нас Бог стварыў не для таго,
А мы Яго на крыж цвікамі…
Ён любіць нас, а мы Яго
Каторы раз укрыжавалі…

***Даната Варабей,** г. Мядзел*



# Слова Пана – Добрая Навіна пра перамогу Хрыста

**У пасхальную ноч мы зноў чуем радаснае “Аллелюя!”, якое не гучала ў нашых касцёлах ад Папяльцовай серады. Можна сказаць, што мы “пасціліся” ад ужывання гэтага выразу, каб у Вялікую ноч і на працягу ўсяго Велікоднага перыяду з новай моцай спяваць вуснамі і душой хвалу Уваскросламу Пану. “Аллелюя” па-габрэйску азначае “хваліце Пана”: хрысціянская літургія ўзяла гэты выраз з Кнігі псальмаў, дзе ён сустракаецца напрыканцы зборніка (гл. Пс 145-150). Зрэшты, само грэцкае слова “псальм” (як і габрэйскі адпаведнік) азначае менавіта “хвала, песня хвалы”.**

Пасхальная літургія асаблівая таксама тым, што падчас яе мы чуем шмат біблійных чытанняў. Гэтыя ўрыўкі са Святога Пісання нагадваюць нам пра некаторыя важныя моманты гісторыі збаўлення, кульмінацыя якой – адкупленчая смерць і паўстанне з мёртвых Езуса Хрыста. У найсвяцейшую ноч для нас гучаць аповеды з Пяцікніжжа (“Торы”), заклікі прарокаў, псальмодыя, “эпістала” (што значыць “пасланне” – словы апостала) і, нарэшце, абвяшчэнне ўваскрасення Пана ў Евангеллі. Такая разнастайнасць дапамагае нам усвядоміць багацце стыляў і жанраў, якое знаходзім у Святым Пісанні.

**Літаратурныя жанры Біблії**

Пра розныя літаратурныя жанры варта памятаць, калі мы адкрываем Біблію: кожны патрабуе ад нас адпаведнага стаўлення, бо, напрыклад, не можам успрымаць прыпавесць ці метафарычнае параўнанне праз тыя ж “акуляры”, што запаведзі ці законы. Апакаліптычная візія – не тое самае, што аповед пра канкрэтныя гістарычныя падзеі. Варта ведаць прынамсі асноўныя правілы, якімі кіруюцца галоўныя біблійныя жанры, каб нам дакладней і паўней засвойваць тое, што Пан хоча сказаць праз аўтараў, натхнёных Ягоным Духам.

У залежнасці ад таго, наколькі дэталёва мы разглядаем адметнасці таго ці іншага жанру, можна вылучыць нават некалькі іх дзясяткаў.

Самы просты – гэта традыцыйны падзел Старога Запавету на Пяцікніжжа (Тору), кнігі гістарычныя, прароцкія, літаратуру мудрасці. У Новым Запавеце вылучаем Евангеллі, Дзеі Апосталаў, апостальскія пасланні, Кнігу Апакаліпсіса. У сваю чаргу, кожная катэгорыя, а нават паасобныя кнігі, могуць змяшчаць разнародныя драбнейшыя жанры. У Торы на фоне сямейных гісторый і народнага эпасу – аповеду пра вызваленне Ізраэля з Егіпта – пададзены шматлікія законы, правілы, запаведзі адносна самых разнастайных сфераў жыцця. У прарокаў побач з палкімі заклікамі да сацыяльнай справядлівасці знаходзім жанр плачу і прадказанняў караў за зло і пыху.

**Аўтары апакаліптычных тэкстаў выкарыстоўваюць вельмі спецыфічны “шыфр”: праз касмічныя і фантастычныя вобразы яны кажуць пра барацьбу дабра і зла, прадказваючы канчатковую перамогу Божай справядлівасці.**

Асобная вялікая катэгорыя – паэзія: у гэтым жанры напісаны псальмы, шмат дыдактычных (літаратуры мудрасці) і прароцкіх тэкстаў. Біблійная паэзія характарызуецца не рыфмай, а рытмам і сінанімічным паўторам. У перакладах гэта нялёгка перадаць.

Мы добра ведаем, што Пан Езус (і некаторыя з прарокаў да Яго) у сваім навучанні часта выкарыстоўваў прыпавесці і метафары, параўнанні, яны таксама складаюць асобны жанр. Вобразная мова дазваляе больш выразна вытлумачыць нябачную рэчаіснасць.

**Евангелле – жанр “Добрай Навіны”**

Для нас, хрысціянаў, канешне, цалкам асаблівае значэнне сярод усіх Пісанняў маюць Евангеллі, бо раскрываюць нам асобу нашага Збаўцы Езуса Хрыста. Варта ведаць, што акрамя чатырох Евангелляў, якія належаць да біблійнага канона, існуюць так званыя “некананічныя” евангеллі, якія насамрэч імі не з’яўляюцца, бо не толькі не зусім адпавядаюць артадоксіі, але і вымаганням жанру. Магчыма, вы чулі пра “Евангелле паводле Тамаша”, “Протаевангелле Якуба” (якое распавядае ў тым ліку пра дзяцінства Маці Божай) ці нават “Евангелле паводле Юды”. Евангелле ў сапраўдным сэнсе – гэта аповед пра вучэнне, дзейнасць, муку, смерць і ўваскрасенне Езуса Хрыста. У каноне Новага Запавету знаходзім чатыры такія творы: Мацвея, Марка і Луку разам называюць “сіноптыкамі” (ад грэч. “глядзець разам”), бо іх аповеды маюць шмат агульнага паміж сабой. Ян жа пісаў сваё Евангелле пазней, і замест таго, каб паўтараць усю навуку Езуса і падзеі, ужо напісаныя іншымі, выбраў расказаць менш, але больш дэталёва і глыбока апісаў некаторыя эпізоды дзейнасці свайго Настаўніка і Пана.

Вельмі цікава, што мы маем не адно, а чатыры Евангеллі, і Касцёл вельмі рана асудзіў спробы стварыць адзінае Евангелле замест чатырох. Кожнае з іх звяртае нашу ўвагу на пэўныя асаблівасці “стылю” Езуса. Напрыклад, Мацвей (у іканаграфіі яго сімвал – анёл) падкрэслівае сувязь і пераемнасць паміж Першым Запаветам і Хрыстом. У Марка (сімвал – леў) бачым Езуса “ў дзеянні”, у яго Евангеллі знаходзім найбольшую канцэнтрацыю дзеясловаў. Лука (сімвал – бык) асаблівым чынам паказвае Божую міласэрнасць і ўвагу Хрыста да бедных. Ян жа (сімвал – арол) падкрэслівае боскасць Езуса і ўказвае на Божую таямніцу, схаваную ў Яго Асобе. Ян выдатна апісвае мэту, дзеля якой створаныя




Евангеллі: “каб вы паверылі, што Езус – гэта Хрыстус, Сын Божы, і каб, веруючы, вы мелі жыццё ў імя Ягонае” (Ян 20, 31).

Апостал Пётр так раскрывае сваім адрасатам новую рэчаіснасць іхняга існавання: “Вы народжаныя зноў не з тленнага насення, але з нятленнага, праз Божае слова, якое жыве і трывае. (...) Гэтым словам ёсць Добрая Навіна, абвешчаная вам” (1 П 1, 23.25). “Добрая Навіна” – гэта даслоўны пераклад выразу “Евангелле”: тое, што ўчыніў Бог для ўсяго чалавецтва праз свайго ўцелаўлёнага Сына Езуса Хрыста, перказана наступным пакаленням у аповедах евангелістаў. Не проста як нейкая гістарычная кніга, а менавіта як дзейснае слова, здольнае “нараджаць”, даваць жыццё.

Крыху раней Пётр піша: “Бласлаўлёны Бог і Айцец нашага Пана Езуса Хрыста, Які праз вялікую сваю міласэрнасць адрадзіў нас да жывой надзеі праз уваскрасенне Езуса Хрыста, да спадчыны незнішчальнай...” (1 П 1, 3-4). У гэты літургічны перыяд, калі мы святкуем перамогу над смерцю Хрыста, хочам аднавіць нашу веру, што Божы Сын сапраўды жывы і сваім уваскрасеннем дае нам магчымасць нарадзіцца да новага жыцця. Не толькі таго, што чакае нас пасля смерці, але ўжо ў гэтым зямным існаванні перамяняе нас. Мы можам сказаць, што Ён робіць нас удзельнікамі свайго Евангелля: дазваляе нам перажыць сустрэчу з Сабой, Уваскрослым.

**Евангеллі – аповеды з “адкрытым фіналам”**

Калі мы ўважліва чытаем аповеды евангелістаў, то ўсведамляем, як яны “працягваюць руку” да нас, жадаючы ўключыць нас у тую гісторыю, каторая распачынаецца дзякуючы змёртвыхпаўстанню Пана і каторая цалкам перамяняе наша ўспрыманне жыцця. Евангеллі – аповеды з “адкрытым фіналам”. Праз Мацвея Езус абяцае: “Я з вамі ва ўсе дні, аж да сканчэння веку”. Аповед Лукі не заканчваецца апошнім радком Евангелля, а працягваецца ў кнізе Дзеяў Апосталаў. Яна ж у сваю чаргу, здаецца, наўмысна незавершана: быццам Лука хоча сказаць, што Паўлава прапаведзь пра Хрыста трывае дагэтуль. Апошні верш Яна нібыта ўказвае на тое, што Езус учыніў і чыніць на працягу ўсёй гісторыі чалавецтва.

Праз веру, праз нашу жывую сувязь з Уваскрослым і жывым Панам мы сапраўды становімся часткай той захапляльнай гісторыі, якую “піша” Бог і якою перадаў нам праз натхнёных аўтараў.

*Айцец Віктар Жук SJ*

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку “Газетная закрыстыя”.**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету “Каталіцкі Веснік”. Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:
*Газета*
*“Каталіцкі Веснік”*
*вул. Савецкая, 1*
*211793 г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 20 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:
*Місевіч*
*Віктар Мар’янавіч*
*вул. Савецкая, 1*
*211793 г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

*Рэдакцыя*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Як паводзіць сябе на могілках?

*– Пахвалёны Езус Хрыстус! Будучы выхаваным у хрысціянскай веры, я стаўлюся да нябожчыкаў з павагай, якая належыць людзям, што адышлі ў іншы свет. Апошнім часам, займаючыся краязнаўчай дзейнасцю, я сутыкнуўся з пытаннем: ці можна фатаграфаваць/замалёўваць помнікі на магілах для выкарыстання фотаздымкаў/замалёвак у навуковай (краязнаўчай) дзейнасці?*

*Юрый*

– Хвала на векі! Паважаны Юрый, вялікі дзякуй за пытанне! Я дазволю сабе адказаць больш шырока на Вашае пытанне.

Згодна з канонам 1205 Кодэкса кананічнага права, могілкі належаць да святых месцаў. Пераўтвараюцца яны ў такія праз пасвячэнне або благаславенне. Далей Кодэкс кажа, што "ў святым месцы дапускаецца толькі тое, што служыць ажыццяўленню і падтрыманню культу, пабожнасці і рэлігіі, а забараняецца ўсё, што з'яўляецца не спалучальным са святасцю месца" (кан. 1210). Святыя месцы, у тым ліку і могілкі, апаганьваюцца праз цяжкія шкодныя дзеянні (кан. 1211).

Нормы, якія датычаць парадку, што павінен захоўвацца на могілках, асабліва адносна захоўвання іх сакральнага характару і спрыяння яму, устанаўліваюцца партыкулярным правам (мясцовым біскупам на ўзроўні дыяцэзіі альбо біскупскай канферэнцыяй на ўзроўні краіны, кан. 1243).

На жаль, не кожны ведае, як трэба сябе паводзіць на могілках. І вельмі часта, асабліва ў вялікіх гарадах, на могілках можна ўбачыць розныя рэчы. Кожны з нас калі-небудзь быў сведкам неадэкватных паводзін на могілках. Шмат разоў мы чулі гучныя недарэчныя размовы, а часам нават і смех над магіламі блізкіх.

Калі Касцёл адносіць могілкі да святых месцаў, то і паводзіны там павінны быць адпаведныя.

**Самым галоўным правілам з'яўляецца тое, што з моманту пераходу могілкавай брамы неабходна захоўваць цішыню.**

Само па сабе гэтае месца заахвочвае нас да цішыні і разважанняў або, іншымі словамі, прымушае да разважанняў, а цішыня дапамагае разважанням над тым, што чакае кожнага з нас. Таму адназначна варта пазбягаць непатрэбных размоў: пра тое, што здарылася на працы, што мы нядаўна глядзелі па тэлебачанні, хто і які купіў аўтамабіль, як выглядае тая ці іншая асоба і г.д. Справа не ў тым, што на могілках увогуле забараняецца размаўляць, але адведванне могілак – гэта выдатная нагода ўспомніць і пагаварыць толькі пра тых, дзеля каго мы туды прыходзім.

Часта пэўныя могілкі з'яўлюцца гісторыка-культурнай каштоўнасцю, манументальным некропалем. Напрыклад, могілкі Салента ў Генуі ці Вялікія Могілкі ў Мілане, або могілкі святога Міхала ў Венецыі ці могілкі Роса ў Вільні. І таму шматлікія турыстычныя аператары ўключаюць іх у праспекты для наведвання з пametкай "Абавязкова да наведвання".

І ў Беларусі існуюць могілкі, якія можна назваць гісторыка-культурнымі каштоўнасцямі. Іх таксама можна наведваць, як "музей пад адкрытым небам", захоўваючы, вядома, адпаведныя паводзіны, вывучаючы надмагільныя помнікі.

Беручы як прыклад могілкі Стальена ў Генуі, мы бачым, што праект стварэння гэтага месца быў ухвалены мясцовымі ўладамі ў 1835 годзе. Да яго рэалізацыі прыступіў галоўны архітэктар горада Карла Барабіна. На жаль, яму не было наканавана скончыць свой праект, бо ў гэтым жа годзе ён памёр ад жахлівай эпідэміі чумы. Таму ўзвядзенне гарадскіх могілак у 1844 годзе ўзяў на сябе вучань Барабіна – Джавані Батыста Рэзаска.

2 студзеня 1851 года працы завяршыліся. На той час Генуя стала значным культурным цэнтрам краіны, туды з'язджаліся многія таленавітыя і знакамітыя асобы. Жадаючы пакінуць пасля сябе пэўную спадчыну, яны стварылі культуру пахавальнага мастацтва, робячы скульптуры, якія пазней іх нашчадкі ўзводзілі на іх магілах. Да сённяшняга дня могілкі Стальена прыцягваюць да сябе ўвагу шматлікіх мастакоў, вучоных і культуразнаўцаў. Трэба сказаць, што першыя аб'екты пахавальнага або рытуальнага мастацтва з'явіліся яшчэ ў антычныя часы.

Творамі сучаснага рытуальнага мастацтва можна лічыць і мемарыялы, якія ўстанаўліваюцца над магілай. Некаторыя з іх дзівяць прыгажосцю і вытанчанасцю скульптурных формаў, незвычайнымі дызайнерскімі рашэннямі або глыбокім сэнсам, закладзеным у рэалізаваны майстрам вобраз.

На працягу ўсёй гісторыі свайго існавання Касцёл шанаваў мастацтва, адносячы яго да адной з высакародных спраў чалавека, бо менавіта праз мастацтва чалавек павялічвае пашану і хвалу Божую. Вядома, калі гэтае мастацтва не з'яўляецца дэфармавальным (пар. Статуты Сіноду Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, Пінскай і Віцебскай дыяцэзій, 606-607). Пахавальнае мастацтва, у сваю чаргу, з'яўляецца галіной агульнага мастацтва і таму як асобная сфера павінна адпаведным чынам даследавацца.

Такім чынам, падчас мастацкай ці краязнаўчай дзейнасці існуе неабходнасць фатаграфаваць або замалёўваць помнікі, скульптуры ці мемарыялы, а пазней выкарыстоўваць гэтыя фотаздымкі ці малюнкі ў навуковай дзейнасці. А такая дзейнасць (навуковая, мастацкая ці краязнаўчая) не забараняецца Касцёлам. Дастаткова памятаць пра адпаведныя паводзіны на могілках.

*З малітвай,*
***кс. Аляксей Ляшко***



Могілкі Стальена, Генуя

Могілкі Стальена, Генуя



Могілкі святога Міхала, магіла Іосіфа Бродскага, Венецыя



Могілкі святога Міхала, Венецыя



Могілкі Роса (Вільна)

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Гертруда Блышко** *(Глыбокае)*, **парафіяне з касцёла Езуса Міласэрнага ў Віцебску, Эдуард Аляхновіч** *(Глыбокае)*, **Лія Мацюшонак** *(Прошкава)*, **Людміла Сінкевіч** *(Глыбокае)*, **Францішка Мурашка** *(Даўгінава)*, **Алімпія Цішко** *(Старыя Габы)*, **Ядвіга Мядзвецкая** *(Сталіца)*, **Аліцыя Трафімовіч** *(Паставы)*, **Марыя Гарачка** *(Шаркаўшчына)*, **Валянціна Сурвіла** *(Шэметава)*, **Валянцін Альхімёнак** *(Докшыцы)*, **Часлава Паршута** *(Павяцце)*, **Даната Рудак** *(Захарнічы)*, **Тэрэза Каптур** *(Пагошча)*, **Баляслава Немыцкая** *(Паставы)*, **Часлаў Клімовіч** *(Мядзел)*, **Валянціна Маісеева** *(Сталіца)*, **Пучынская І.С.** *(Германавічы)*, **Аліна Гайлеўская** *(Туркава)*, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Лізавета Красілевіч** *(Казлоўшчына)*, **Яніна Вяршэль** *(Вігушкі)*, **Галіна Драневіч** *(Малая Сырмеж)*, **Часлава Сварцэвіч** *(Таргуны)*, **Тацццяна Шук** *(Лявонпаль)*, **Зінаіда Рамашка** *(Мінск)*, **Ядвіга Будзіч** *(Буяўшчына)*, **Зоя Воранава** *(Шуміліна)*, **Лук'янская А.В.** *(Пялікі)*, **Марыя Юрык** *(Глыбокае)*, **Жана Юрык** *(Глыбокае)*, **Соф'я Ермаковіч** *(Глыбокае)*, **Валянціна Лучына** *(Слабодка)*, **Ганна Ермалёнак** *(Слабодка)*, **Аліна Гайдзель** *(Слабодка)*, **Гэлена Качаноўская** *(Слабодка)*, **Даната Далецкая** *(Слабодка)*, **Люцыя Арсюкова** *(Слабодка)*, **Тэрэза Ганчаронак** *(Слабодка)*, **Вера Дундзер** *(Слабодка)*, **Саламея Ігнатовіч** *(Слабодка)*, **Яніна Вільчынская** *(Слабодка)*, **Яніна Хвецковіч** *(Слабодка)*, **Марыя Угарэнка** *(Слабодка)*, **Ядвіга Барткевіч** *(Гаўрылаўцы)*, **Рэгіна Савіцкая** *(Гаўрылаўцы)*, **Тэрэза Стэльмачонак** *(Гавейкі)*, **Лёля Шэмель** *(Усце)*, **Станіслаў Сініца** *(Глыбошчына)*, **Галіна Сінкевіч** *(Глыбокае)*, **Даната Сярогіна** *(Глыбокае)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Галіна Несцяровіч** *(Івянец)*, **Яніна Парфяновіч** *(Шаркаўшчына)*, **Леакадзія Лаўнюжэнка** *(Новыя Габы)*, **Даната Голубева** *(Бабінавічы)*, **Мікалай Рагожкін** *(Новы Пагост)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Уладзіслаў Каспяровіч** *(Мурававая Ашмянка)*, **Валянціна Курта** *(Луцк Казлоўскі)*, **Генадзь Лапушынскі** *(Коўзаны)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя***




Хрыстос Уваскрос! Аллелюя! Дарагі дружа, вось і надыйшоў Вялікдзень – свята Уваскрасення Езуса Хрыста. Наш Госпад перамог смерць на крыжы, зруйнаваў моц пекла і дараваў нам Збаўленне.

**У гэты радасны час прапануем табе выканаць нашы святочныя заданні.**

## 1 заданне

У велікодным кошыку яйкі з літарамі. Растаў літары ў адпаведным парадку і даведаешся святочны радасны вокліч, які азначае "Праслаўляйма Госпада".




## 2 заданне

Дапоўні прабелы словамі адпаведнага колеру, і атрымаецца велікодны спеў.
Заспявай яго разам з бацькамі і сябрамі.

Слёзы з твару ____________,
Праганяйце з сэрцаў ________ .
Песні радасна ___________
Хай гучыць вясёлы __________ .
Уваскрос ________ над панамі,
Ён _______, Ён зноўку з _______ .
Аллелюя, аллелюя,
__________ аллелюя!

Пан выцірайце спявайце смех
грэх жыве усклікайце намі

## 3 заданне

Прачытайце Евангелле ад Яна,20, 1-9. Разгадай заданні крыжаванкі. Правільна складзі літары залатога колеру, і даведаешся, як называецца час, прысвечаны разважанню над апошнімі днямі зямнога жыцця Збаўцы: Вялікі чацвер Вячэры Пана, Вялікая пятніца Мукі Пана і Пасхальная вігілія ў Святую ноч.Адказ запішы.




1. Як звалі жанчыну, што прыйшла да магілы Хрыста ў першы дзень тыдня?
2. У які час сутак жанчына пайшла да магілы?
3. Як звалі вучня, да якога пабегла жанчына?
4. Куды пабеглі вучні?
5. Што ўбачыў другі вучань, заглягуўшы ў магілу?
6. Дзе ляжала хуста?
7. Езуса Хрыста не было ў магіле, таму што Ён …

## 4 заданне

Размалюй ілюстрацыю.
Успомні, які момант на ёй адлюстраваны.



*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Вікторыя Філіпенка***

# Як амаль 700 чалавек супольна чытаюць Біблію ў вайберы

**"Дзякуючы" каранавірусу ў Касцёле нарадзілася шмат ідэй і ініцыятыў. Некаторыя зніклі разам з заканчэннем пандэміі, а іншыя працягваюць развівацца. У 2021 г. айцец Раман Шульц OP з Магілёва прапанаваў супольнае чытанне кнігі Ёва. Пасля абвесткі на catholic.by ў групку ў вайберы дадалося некалькі сот чалавек. Людзі не разбегліся пасля заканчэння праекта і працягвалі збірацца на чытанне Біблії ў Вялікі пост і Адвэнт. За два гады вайбер-група вырасла больш чым у два разы.**

■ Арцём Ткачук

**Пачалося з чытання кніг у парафіі**

"Дамініканская харызма прадугледжвае няспыннае вывучэнне Божага Слова, у тым ліку чытанне добрых кніг. Чытаючы кнігі і адкрываючы іх для сябе, я хацеў, каб і мае парафіяне маглі пазнаёміцца з іх зместам", – распавядае а. Раман. Таму аднойчы магілёўскі пробашч пачаў прасіць каго-небудзь з парафіі прачытаць пэўную кнігу і распавесці пра яе падчас аб'яў.

Пазней, выкарыстоўваючы гатоўнасць вернікаў браць пастановы на Вялікі пост і Адвэнт, а. Раман прапанаваў чытаць кнігі разам. "Дамініканцы ў Магілёве маюць сорак вернікаў, таму лёгка было зрабіць дваццаць ксеракопій. Штонядзелю парафіяне забіралі з сабой копію чарговага раздзела. Такім чынам мы прачыталі "З клопатам пра сумленне" кс. Э. Станэка, "Все дороги ведут в Рим" Скота Хана, энцыкліку Бэнэдыкта XVI "Deus Caritas Est", – распавядае а. Шульц.

За некалькі гадоў вернікі прачыталі таксама шэраг кніг Старога Запавету: кнігі Данііла, Ярэміі, Эзэхіэля, Прыпавесцяў і Тобія. На Вялікі пост 2021 г. магілёўская парафія збіралася чытаць кнігу Ёва. Разам з гэтым з'явілася ідэя, каб да чытання і малітвы Словам запрасіць людзей па-за супольнасцю. Пасля абвесткі на catholic.by ў адмысловую групку ў вайберы дадаліся сотні ахвочых. Чаму менавіта вайбер? "Таму што ніхто не прапаноўваў іншыя сацыяльныя сеткі, і гэтак ужо ёсць да сёння", – кажа а. Раман.

**Як рыхтуецца такі курс?**

Магілёўскі дамініканец прызнаецца, што працэс падрыхтоўкі да чытання займае шмат часу. Пасля выбару кнігі неабходна знайсці добрыя каментары прафесійных біблістаў і перакласці іх на беларускую. Сёлета ў Вялікім посце група чытае кнігу Ісаі. Гэта 66 раздзелаў. Пераклад каментарыяў з польскай мовы заняў месяц. У сваю чаргу, а. Раман таксама рыхтуе свае роздумы да кожнай з частак. "Напісанне майго каментарыя часам займае некалькі гадзін, і найчасцей гэта адбываецца ў той жа дзень, калі дадзены раздзел чытаецца супольна. Вельмі прашу Духа Святога аб бласлаўленні, таму што да канца невядома, "што народзіцца", – кажа святар.


а. Раман Шульц OP, дамініканец. Пробашч парафіі св. Казіміра і св. Ядзвігі ў Магілёве.

**Планы**

Пасля кожнага тура чытання Біблії а. Шульц атрымлівае дзясяткі пазітыўных водгукаў і просьбаў працягваць справу. Аднак пра будучыню справы пакуль не бярэцца штосьці казаць. Святар мяркуе, што, магчыма, у будучыні паспрабуе выкарыстаць каментары з Познанскай Біблії, якую яму параіў кс. Тадэвуш Крыштопік з Гродзенскай дыяцэзіі. У любым выпадку дамініканец упэўнены: "важна сёння, бо хапіла часу і сілаў давесці актуальную справу да канца. Яна патрабуе шмат намаганняў, а ёсць шмат яшчэ і іншых заняткаў у парафіі, дзе я працую адзін".

Ці пераедзе праект у іншую сацыяльную сетку? Час пакажа. Айцец Раман кажа, што палохае ўсё з вайбера і так трывае да сёння. У гэтым плане ён адкрыты на прапановы.

Напрыканцы святар просіць аб малітве за праект і падсумоўвае: "Калі Пан Езус і Яго Маці хочуць, каб мы працягвалі супольнае чытанне Божага слова, то я спадзяюся на падказкі Святога Духа і супрацу зацікаўленых".

# Прадстаўнік Святога Пасаду пакінуў Нікарагуа


Мансеньёр Дыюф падчас развітання з дыпламатамі краін ЕС

**17 сакавіка мансеньёр Марсэль Дыюф, Часовы паверaны ў справах Святога Пасаду ў Нікарагуа, пакінуў краіну і пераехаў у Коста-Рыку. Закрыццё нунцыятуры адбылося па просьбе нікарагуанскіх уладаў.**

Нагляд за будынкам дыпламатычнага прадстаўніцтва Апостальскай Сталіцы і яго маёмасцю, згодна з Венскай канвенцыяй аб дыпламатычных стасунках, быў даручаны Італьянскай Рэспубліцы.

Перад ад'ездам з Нікарагуа з мансеньёрам Дыюфам прыйшлі развітацца дыпламатычныя прадстаўнікі Еўрапейскага Саюза, Германіі, Францыі і Італіі ў Нікарагуа. Святар заставаўся апошнім супрацоўнікам нунцыятуры ў Манагуа пасля рашэння Даніэля Артэгі аб прыпыненні дыпламатычных адносін паміж Апостальскай Сталіцай і Нікарагуа.

Мансеньёр Дыюф выконваў функцыю Часовага паверанага пасля таго, як у 2022 годзе Апостальскі нунцый у Нікарагуа арцыбіскуп Вальдэмар Зомертаг пакінуў краіну, таксама па просьбе мясцовых уладаў.

*Аляксандр Панчанка,*
*беларуская рэдакцыя*
*Vatican News*

# Каляндар на май

**2** мая – успамін св. Атаназія, біскупа і доктара Касцёла.
**3** мая – свята св. Філіпа і Якуба, апосталаў.
**10** мая – успамін св. Яна Авільскага, святара і доктара Касцёла.
**12** мая – успамін св. Нэрэя і Ахіла, мучанікаў; успамін св. Панкрата, мучаніка.
**13** мая – успамін Найсвяцейшай Панны Марыі з Фацімы.
**16** мая – успамін св. Андрэя Баболі, святара і мучаніка.
**18** мая – урачыстасць Унебаўшэсця Пана.
**20** мая – успамін св. Бернардына Сіенскага, святара.
**22** мая – успамін св. Рыты з Касіі, законніцы.
**25** мая – успамін св. Бэды Вялебнага, святара і доктара Касцёла; успамін св. Грыгорыя VII, папы; успамін св. Марыі Магдалены Пацы, панны.
**26** мая – успамін св. Філіпа Нэры, святара.
**27** мая – успамін св. Аўгустына Кэнтэрберыйскага, біскупа.
**29** мая – успамін Найсвяцейшай Панны Марыі, Маці Касцёла.
**31** мая – свята Адведзінаў Найсвяцейшай Панны Марыі.

# Ахвяруй на "Каталіцкі Веснік"

Дарагія сябры!

Ёсць магчымасць дапамагчы газеце "Каталіцкі Веснік" фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам ад 1 да 5 рублёў на месяц, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!

Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Даслаць ахвяраванне колькасцю 1, 2, 3, 4 ці 5 рублёў можна, зрабіўшы наступнае:

1. Адпраўце USSD-запыт наступнага фармату:
*363*375295105172*2# — калі Вы хочаце ахвяраваць 2 рублі
*363*375295105172*5# — калі Вы хочаце ахвяраваць 5 рублёў
(апошняя лічба ў кодзе абазначае памер ахвяравання)
2. Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.
3. Дашліце USSD-запыт наступнага фармату:
*363*[код пацвярджэння]#
4. Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумару 364. З баланса Вашага тэлефона будзе спісана 1, 2, 3, 4 або 5 рублёў, у залежнасці ад таго, якую суму Вы ахвяравалі.

**Увага!** Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 5 рублёў. Каб даслаць большую суму ахвяравання, неабходна паўтарыць аперацыю.

**Увага!** Прапанова актуальная толькі для абанентаў МТС. Калі Вы з'яўляецеся абанентам A1 ці іншага мабільнага аператара ў Беларусі і жадаеце ахвяраваць на "Каталіцкі Веснік", Вы можаце проста папоўніць баланс тэлефона: +375295105172.

**Вялікі дзякуй за ахвяраванне на падтрымку сайта Catholicnews.by!** За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша! Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!

***Рэдакцыя сайта Catholicnews.by***

**Правільныя адказы на тэст са старонкі 9**
1 – А; 2 – Б; 3 – В; 4 – Б; 5 – А; 6 – А; 7 – А; 8 – А; 9 – Б; 10 – А

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Выдавец:** рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 1657

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 2500 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 04.04.2023 г. у 9.50

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)61-88-22
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621

Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь